БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 32 (13564)

3 — 9 жніўня 1992 года

Кошт 3 рублі.






Прыйшоў жнівень. Ападаючае лісце гарадскіх клёнаў нагадала пра непазбежнасць восені, а значыць, і падпіскі на газеты і часопісы на наступны год. Праўда, не на ўвесь — па рашэнню сувязістаў яна цяпер будзе праводзіцца толькі па паўгоддзях, каб падпісны кошт хоць крыху паспяваў за прывычнымі ўжо штомесячнымі скачкамі цэн на ўсё астатняе. І, зразумела, усім нам — падпісчыкам — давядзецца цяпер не адзін раз задумацца і ўзважыць сямейны бюджэт, перш чым пайсці на пошту. Таму спяшаемся паведаміць нашым чытачам, што нам удалося захаваць параўнальна невысокі

**падпісны кошт на "Чырвонку" ў будучым годзе:**
**на месяц – 13 рублёў;**
**на 3 месяцы – 39 рублёў;**
**на паўгоддзе – 78 рублёў.**

Зразумела, для некага і гэтая сума можа аказацца больш неабходнай на іншыя патрэбы. Аднак паверце, што ў сённяшніх вар'яцкіх умовах існавання друку і гэты кошт каштаваў нам зусім не "малой крыві". І калі Вы прыхільнік Адраджэння роднай нацыі, яе свядомасці, культуры і мовы, калі Вы цікавіцеся "белымі плямамі" беларускай гісторыі, хочаце мець штотыднёвы незалежны каментар да падзей, якія адбываюцца навокал, і, нарэшце, калі Вы малады, наш штотыднёвік — для Вас.

Як звычайна, з вамі заўсёды будуць побач тэматычныя выпускі "Надоечы", "Палітыка-аналітычная служба", "Эканоміка", "Як жывеш, вёска?", "Рэпартаж у нумар", "Спадчына", "Сумежжа", "Адам і Ева", "Галёрка", "Крымінальнае бюро", "Гарчычнік", "Галактыка". Будзем спадзявацца, новых сяброў, а можа, нават і каханне прынясе Вам "Перапіска". З'явіцца і спартыўная старонка.

Па вашых шматлікіх просьбах рэдакцыя плануе з пачатку года друкаваць самавучыцель беларускай мовы.

Акрамя таго, у рэдакцыйным партфелі — кнігі беларускай эмігранцкай літаратуры, якія ніколі не друкаваліся ў нас. Рыхтуюцца да друку нарысы Юркі Віцьбіча, фельетоны Юрыя Стукаліча, урыўкі з успамінаў Язэпа Малецкага "Пад знакам Пагоні" і шмат іншых твораў. Упершыню надрукуем і дакументальны дэтэктыў "Забіць гэтага паляка", які расказвае пра замах савецкіх спецслужбаў на Папу Рымскага.

Пачаткоўцам на літаратурнай ніве прадаставіць магчымасць самавыразіцца літаратурнае аб'яднанне "Крыніцы", якое дзейнічае пры нашай газеце.

**ТАКІМ ЧЫНАМ, СЛОВА ЗА ТАБОЮ, НАШ ПАДПІСЧЫК!**

## Стоп-факт

### "Не хадзіў бы ты, Ванёк, у салдаты..."

Завяршыўся прызыў у Беларускае войска, які прадоўжылі да канца ліпеня ў сувязі з тым, што не быў выкананы план набору маладога папаўнення. Як паведамілі ў штабе Міністэрства абароны, зараз план набору выкананы на 100,4 працэнта. Між тым, нягледзячы на тое, што ўсе прызыўнікі будуць служыць на тэрыторыі Беларусі, людзей у войску ўсё роўна не хапае: 20—25 працэнтаў месцаў застаюцца свабоднымі. Вельмі хвалюе вайскоўцаў тое, што юнакі не надта ахвотна апранаюць ваенную форму. Пад час вясенняга прызыву ўхіліліся ад службы 1660 чалавек, 1157 з іх — з Мінска і Мінскай вобласці. Гомель, Наваполацк, Барысаў — гэта таксама тыя кропкі, дзе зарэгістравана масавае ўхіленне ад воінскага абавязку. Юнакі, якія не з'яўляюцца на прызыўныя пункты, тлумачаць гэта тым, што не атрымлівалі павестак. Магчыма, прычына ў тым, што ўвосені будзе прыняты новы закон аб воінскім абавязку, згодна з якім працягласць службы скароціцца да 1,5 года. Многія спрабуюць да гэтага часу паступіць у якія-небудзь навучальныя ўстановы, здабыць розныя медыцынскія даведкі. У адным ваенкамаце расказалі, напрыклад, як двое маладых здаровых хлопцаў проста прызналіся, што купілі даведкі з псіхіятрычнай бальніцы, дзе была засведчана іх непрыгоднасць да вайсковай службы. Яны ж прапанавалі гэтаму афіцэру з ваенкамата дзяжурыць ля іхняга кіёска за 9000 рублёў у месяц замест тых 3000, што ён атрымлівае на сваёй службе. Адным словам, праблем з прызывам нямала і застаецца толькі спадзявацца, што з прыняццем новага закона колькасць іх зменшыцца.

### Увага! Ідзе прымерка!

#### Мытня пераапранаецца

10 ліпеня ўрадам Рэспублікі Беларусь прынята пастанова "Аб забеспячэнні работнікаў мытнай службы рэспублікі форменным і спецыяльным адзеннем і абуткам". Зацверджаны варыянты зімовай і летняй формы, прадстаўленыя Дзяржаўным мытным камітэтам, а таксама табель прадметаў і нормы выдачы.

Як паведаміў Вячаслаў Міхайлавіч Васілевіч, начальнік кіравання спраў камітэта, заказы на пашыў адзення ўжо размешчаны. Новая форма (насуперак чаканням) амаль не будзе адрозніваццa ад існуючай. Летам мытнікі будуць апрануты ў кароткую куртку і штаны з плашчовай тканіны, зімой жа шынель заменіць падоўжаная куртка.

Паводле расцэнак на май, на "пераапрананне" мытнікаў выдзелена 90 мільёнаў рублёў Хопіць гэтых грошай ці не — адказаць цяжка. Тым не менш да студзеня наступнага года беларускіх мытнікаў павінны будуць забяспечыць новым форменным і спецыяльным адзеннем і абуткам.

Сяргей Вішнеўскі.

### БЕЛАРУСКАЕ ЗОЛАТА?

Россып месцанараджэнняў золата і іншых каштоўных металаў знойдзены ў нашай рэспубліцы спецыялістамі Беларускага дзяржаўнага навукова-даследчага прадпрыемства.

Як паведаміў дырэктар БелГеа, член-карэспандэнт Міжнароднай інжынернай акадэміі, доктар геолага-мінералагічных навук Віталь Маквіч, у 90 са 104-х проб, зробленых на тэрыторыі рэспублікі, выяўлены знакі самароднага золата.

Прамысловае ўтрыманне золата выяўлена ў шэрагу дзеючых кар'ераў Брэсцкай, Мінскай і Гомельскай абласцей. Акрамя таго, у Віцебскай вобласці знойдзены выявы руднага золата.

Сняжана Дварэцкая.

### ...І НЕ ТОЛЬКІ!

Сенсацыйную заяву зрабіў на міжнароднай нарадзе вучоных-геолагаў у Вільнюсе прафесар Герман Каратаеў з Інстытута геалогіі, геахіміі і геафізікі АН Беларусі. Ён паведаміў, што на поўначы нашай рэспублікі выдзелена анамальная Полацкая зона, геафізічныя характарыстыкі якой даюць магчымасць разглядаць яе як патэнцыяльна алмазаносную вобласць.

Віктар Яўланаў.

### Беларускія карціны — у Вашынгтонскім офісе?

З 30 ліпеня па 11 жніўня ў выставачнай зале на праспекце Машэрава працуе дабрачынная выстаўка-продаж твораў беларускіх мастакоў, арганізаваная Дзіцячым фондам РБ і мастацка-камерцыйнай фірмай "Літвінічы", створанай пры Саюзе мастакоў Беларусі. Атрыманыя сродкі будуць накіроўвацца на падтрымку дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля". Частка заробленых грошай стане добрай дапамогай і для саміх мастакоў. На выстаўцы прадстаўлены 140 работ такіх вядомых майстроў жывапісу і графікі, як М.Кірэеў, В.Кубараў, У.Кожух, М.Басалыга і іншых. Кошт многіх работ, зразумела, не па кішэні значнай частцы нашых суайчыннікаў. Але вялікую цікавасць выклікае выстаўка ў замежных бізнесменаў з ЗША, Карэі, іншых краін. Некаторыя засмучана наракаюць на тое, што карціны "паплывуць" за мяжу. Што ж, багатыя людзі лічаць прэстыжным упрыгожыць офісы, іншыя службовыя памяшканні творамі выяўленчага мастацтва. Тым больш, калі ёсць магчымасць набыць іх па даступнай цане. Магчыма, культурны ўзровень і эстэтычны густ прадстаўнікоў нашых камерцыйных структур яшчэ не дасягнуў належнай вышыні. Інакш, чым растлумачыць іх невялікую, мякка скажам, цікавасць да творчасці лепшых мастакоў Беларусі?

## Ад сэрца да сэрца

Нагадаем, што так будуць называцца сумесныя дабрачынныя тэлеаўкцыёны Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, часопіса "Зрок" і Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі РБ у кастрычніку-лістападзе гэтага года. Сродкі ад правядзення пойдуць на будаўніцтва першага ў рэспубліцы рэабілітацыйнага цэнтра для невідушчых.

За мінулы тыдзень гэтую дабрачынную акцыю падтрымалі многія арганізацыі, супрацоўнікі якіх вырашылі ўнесці сваю лепту ў будаўніцтва цэнтра. Сярод спонсараў тэлеаўкцыёну — МІНСКІ ГАДЗІННІКАВЫ ЗАВОД, фірма "ТАМІРА", БАБРУЙСКІ МАШЫННЫ ЗАВОД, вытворча-камерцыйная фірма "СЛАВЯНКА" (таксама з Бабруйска), ПУХАВІЦКАЯ КАРДОННАЯ ФАБРЫКА, фірма "САНТА-НАС".МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РБ паабяцала дапамагчы цэнтру медыцынскай апаратурай, а МІНСКХЛЕБПРАМ абавязаўся забяспечыць правядзенне тэлеаўкцыёну прадуктамі.

Арганізатары акцыі міласэрнасці ад імя тых, каму ў будучым дапаможа рэабілітацыйны цэнтр, шчыра дзякуюць добрым людзям за шчодрасць і чысціню душы.

Заяўкі на ўдзел у тэлеаўкцыёнах прымаюцца да 15 жніўня г.г.

*Адрас: 220004, г.Мінск, вул.Вызвалення, 9, тэл. 26-88-88, 26-86-00.*

*Разліковы рахунак: дырэкцыя РРЦ БалТІЗ: 200609233 у гарадской дырэкцыі Мінскбізнесбанка ў г.Мінску, МФО 153001764.*

*Валютны разліковы рахунак таварыства: 069070080 001 у Знешэканомбанку г.Мінска, МФО 153001226.*

*Спорт*

## Беларускі футбол-92

1-га жніўня адбылося адкрыццё другога нацыянальнага чэмпіянату Беларусі па футболу. Цяжка вызначыць адзіную прычыну абыякавасці нашых балельшчыкаў да нацыянальнага чэмпіянату. Магчыма, гэта – Алімпіяда ў Барселоне, а можа – нізкі ўзровень гульні большасці каманд-удзельніц. Найбольшая колькасць гледачоў (6000 чалавек) наведала стадыён у Маладзечна, дзе мясцовы "Металург" прымаў пераможцаў першага чэмпіянату – мінскіх дынамаўцаў. Практычна з самага пачат , гульні адчувалася перавага мінчан, якія ўпэўнена перамаглі з лікам 3:1. Вызначыўся ветэран дынамаўцаў Сяргей Гоцманаў, які вярнуўся ў каманду пасля трох гадоў замежных važoў. Ён забіў 2 мячы ў вароты гаспадароў поля на 59-й і 88-й хвілінах гульні.

Яшчэ 7 гульняў першага тура прайшлі ў шасці гарадах рэспублікі. Вось іх вынікі:"Днепр" (Магілёў) – "Беларусь" (Мінск) – 0:1, "Тарпеда" (Магілёў) – "Абутнік" (Ліда) – 3:0, "Хімік" (Гродна) – "Будаўнік" (Старыя Дарогі) – 2:1, "Трактар" (Бабруйск) – "Лакаматыў" (Віцебск) – 0:0, "Дынама" (Брэст) –"Гомсельмаш" (Гомель) – 1:0, "Ведрыч" (Рэчыца) – "Шахцёр" (Салігорск) – 2:0, КІМ (Віцебск) – БелАЗ (Жодзіна) – 3:0. Чэмпіянат будзе праводзіцца па сістэме "восень–вясна", як гэта робіцца ў большасці краін Еўропы. Пераможца і прызёр першынства, а таксама ўладальнік Кубка Беларусі гэтага сезона атрымаюць права на ўдзел у еўрапейскіх кубках 1993 года.

Сяргей Вішнеўскі.

## Нацыянальны архіў

## Праз церні — да праўды пра мінулае

Праблема недахопу нацыянальных выданняў пачынае пакрысе вырашацца. Не так даўно наша газета паведамляла пра з'яўленне часопіса "Беларуская мінуўшчына". А 24 ліпеня ў Міністэрстве інфармацыі падпісана пасведчанне аб рэгістрацыі новага выдання — "Беларускага гістарычнага часопіса". Заснавальнікамі яго сталі Міністэрства адукацыі РБ, Інстытут гісторыі Акадэміі навук, Белдзяржуніверсітэт і таварыства "Ведзі".

Як паведаміла Ніна Паўлаўна Жалязоўская, начальнік аддзела рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі і ліцэнзавання выдавецкай дзейнасці Міністэрства інфармацыі, "Беларускі гістарычны часопіс" будзе выходзіць 4—6 разоў у год на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. Часопіс разлічаны на чытачоў Беларусі, Расеі, Польшчы, Канады і іншых краін. Задачамі яго з'яўляюцца садзейнічанне нацыянальнаму адраджэнню, распаўсюджванне гістарычных звестак пра мінулае Беларусі, аказанне метадычнай дапамогі выкладчыкам гісторыі.

Пакуль што невядома, калі выйдзе першы нумар выдання. Але радуе тое, што гісторыкі, якія змагаліся за існаванне "Беларускага гістарычнага часопіса" ажно 15 год, нарэшце ажыццявілі сваю задуму.

Франц Лявіцкі.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Мікалай Іванавіч ВАСІЛЁНАК, першы намеснік старшыні Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма":*

– Мы працуем з нашымі суайчыннікамі, якія апынуліся за межамі Беларусі ў розны час і па розных прычынах. Асабліва шмат беларускіх эмігрантаў пражывае ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Лацінскай Амерыцы. Ва ўсіх гэтых краінах існуюць беларускія суполкі, некаторыя нават выдаюць свае газеты. Мы падтрымліваем з нашымі суайчыннікамі сувязь, дапамагаем ім быць бліжэй да беларускай мовы, культуры, запрашаем да нас у госці, праводзім курсы мастацкай самадзейнасці, дзе вывучаем беларускія песні, танцы. Беларусы за мяжой вельмі просяць, каб ім прысылалі больш беларускіх газет, літаратуры, асабліва дзіцячай. І вельмі шкада, што ў нас на Беларусі не хапае дзіцячых кніжак на роднай мове. На жаль, так здарылася, што адышлі ад беларускай мовы і нашы суайчыннікі за мяжой. Таму асобныя старонкі нашай газеты "Голас Радзімы" мы друкуем на англійскай, іспанскай мовах. Ну і галоўная наша праблема, зразумела, грошы. Мы – грамадская арганізацыя і ўтрыманне замежных гасцей, вядома, абыходзіцца ў "капеечку".

Але, нягледзячы на недахоп сродкаў, мы дапамагаем будаўніцтву першага музея беларускай культуры на Беласточчыне ў горадзе Гайнаўка. Асноўны ж наш клопат сёння – збор сродкаў і медыкаментаў для пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У гэтым вельмі дапамагаюць нашы суайчыннікі, якія адгукнуліся на нашу бяду. Асабліва ўдзячны пастару Міхаілу Мельніку з Германіі, які днямі прывёз чарговую партыю медыкаментаў – 2,5 тоны вітамінаў коштам у 700 тыс. нямецкіх марак.

*Наталля Анатольеўна КУШНЯРОВА, начальнік аддзела па падпісцы рэспубліканскага аддзялення "Саюздрук":*

–Пакуль што цяжка рабіць якія б то ні было прагнозы наконт падпіскі на газеты і часопісы на першае паўгоддзе наступнага года. Але можна сцвярджаць з упэўненасцю, што колькасць падпісчыкаў зменшыцца. Такі вывад можна зрабіць пасля перападпіскі, якая прайшла нядаўна. Так, кошт некаторых газет вырас з дзевяці да 160–210 рублёў за паўгода. У выніку мы згубілі каля 200 тысяч падпісчыкаў. І гэта звязана ў першую чаргу не столькі з падаражаннем газет, колькі з нестабільнай эканамічнай сітуацыяй, якая склалася сёння як у нашай рэспубліцы, так і за яе межамі.

Знайсці выйсце з гэтай сітуацыі можна толькі тады, калі газеты і часопісы будуць у большасці сваёй разыходзіцца не па падпісцы, а прадавацца ў розніцу.

*Сяргей ПАНІЗЬНІК, пісьменнік, рэдактар выдавецтва "Юнацтва":*

– Нядаўна адзначылі мы Дзень Незалежнасці. На мой погляд, вельмі істотна, у якой ступені сёння чалавек адчувае сябе незалежным, вольным. А тое, што быў феерверк, выклікала нават нейкі смех. Нагадвала ранейшыя "чырвоныя святы", калі мы ішлі роўнымі шыхтамі. Штучнае ўсё гэта. Нам жа трэба развівацца з мінулым і стварыць свае беларускія святы.

У нас, я б сказаў, народ толькі на-ра-джа-ецца. Нацыя – гэта бутон, з якога зацвіце кветка. А плады прычакаюць нашыя дзеці, унукі...



# ДЫМАВАЯ ЗАСЛОНА

## засціць вочы ўладам і жыхарам пажаранебяспечных раёнаў

Такога багатага на пажары лета не памятаюць нават старыя пажарнікі. Толькі ў сталічнай вобласці гараць лясы і тарфянікі ў Салігорскім, Пухавіцкім, Мінскім і Барысаўскім раёнах. Небяспека пагражае многім вёскам, піянерскім лагерам, хлебным палям. У Мінскім раёне самыя страшныя пажары ў вёсцы Закрушка і ў Міханавічах. У Закрушцы гарыць балота плошчай 40 га, па якім пракладзены ніткі газаправода. Чым гэта можа скончыцца, калі агонь дасягне труб, мы ведаем па нядаўняй аварыі на газаправодзе ў Баранавічах. Міханавічы таксама наогул наскрозь прапахлі дымам, плошча пажарышчаў складае 200 гектараў.

Пажарнікі збіваюцца з ног, не паспяваючы нават фіксаваць усё новыя і новыя ачагі пажараў. Ім востра не хапае спецыяльнай тэхнікі, паліва, людзей. Практычна ніякай дапамогі ім не аказваюць кіраўнікі гаспадарак і мясцовыя ўлады, на тэрыторыях якіх пануе агонь. Дзіўная рэакцыя насельніцтва навакольных вёсак—поўная абыякавасць, быццам дымавая заслона засціць ім вочы, маўляў, няхай гарыць усё, толькі б мая хата ўцалела. А між тым дзесяткі мільёнаў, затрачаныя на тушэнне пажараў, бяруцца з нашых жа кішэняў.

НА ЗДЫМКАХ:

- ☐ Ідзе сапраўдная вайна.
- ☐ Днюе і начуе на міханавіцкіх балотах ляснічы Аляксандр КІСЯЛЮК.
- ☐ На месцы пажарышча.
- ☐ Чарговы вогненны смерч ідзе на лес.
- ☐ Пекла!

Фотарэпартаж Сяргея БРУШКО.











# ДЗЯРЖАВА ПАВІННА ТРЫМАЦЬ КУРС

*Імя беларускага гісторыка з Польшчы Ю.ТУРОНКА добра вядомае нашым чытачам: "Чырвонка" ўпершыню вярнула беларусам напісаную ім па-польску кнігу "Беларусь пад нямецкай акупацыяй". Друкаваўся Юры Туронак і ў іншых айчынных выданнях. Сёння ён адказвае на пытанні нашага карэспандэнта з нагоды рэлігійных і нацыянальных праблем.*

**– Спадар Туронак, за апошнія гады ў беларускім друку з'явілася шмат публікацыяў, прысвечаных праблемам веравызнання беларусаў і міжканфесійных адносінаў. Чым, на Ваш погляд, гэта выклікана?**

— Я называю гэта працягам палемічнай літаратуры XVI—XVII стагоддзяў: абмяркоўваюцца рэлігійныя пытанні — рэлігійныя ўмоўна, бо тэалогія ў іх практычна не закранаецца, абмяркоўваюцца толькі палітычны і грамадскі аспекты канфесійнай прыналежнасці. Узяць удзел у палеміцы давялося і мне. У зборніку "Скарыніч" быў апублікаваны мой артыкул "Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы". Пазней ён друкаваўся ў Польшчы, цяпер выходзіць у Рыме. Дарэчы, гэты матэрыял выклікаў вялікае незадавальненне польскага боку, бо датычыў колькасці каталіцкага насельніцтва Беларусі. Веравызнанне ў Беларусі часта вызначала нацыянальнасць, і ёсць людзі, якія хочуць, каб католікаў было як найбольш, кажуць, іхняя колькасць сягае 25 працэнтаў. Я звярнуўся да статыстыкі яшчэ царскага часу — 1897 года, вельмі падрабязнай, па паветах. Паводле тых звестак, на мяжы дваццатага стагоддзя ў Беларусі было толькі 14 працэнтаў каталіцкага насельніцтва. Але за час, які мінуў, каля 400 000 асобаў з Беларусі выехала ў Польшчу, таму агульная колькасць магла толькі зменшыцца.

**– Вы лічыце, што спрэчкі вакол пытанняў рэлігіі – гэта толькі імкненне паставіць царкву на службу нацыянальнай справе?**

— Так. Але гэта нармальна. Так павінна быць. Паглядзіце, што было ў Польшчы: усе ўрады, нават камуністы пасля вайны аднолькава ставіліся да ўсіх канфесіяў. І ўсе ўлады былі паслядоўнымі ў адной справе: усе канфесіі павінны служыць Польшчы, яны павінны спрыяць нацыянальнай ідэі. І будзе абсалютна нармальна, калі гэтым напрамкам пойдуць у Беларусі.

**– Што можаце сказаць Вы як гісторык аб ролі, якую ў гісторыі Беларусі адыгралі праваслаўе і каталіцызм?**

— Мушу адзначыць дэструктыўны ўплыў і аднаго, і другога. Гэта несумненна. Вазьміце, прыкладам, XIX стагоддзе, шматлікія хрэстаматыі і кніжкі, што былі апублікаваны па-беларуску. Я не знаходжу там праваслаўных аўтараў. Усе, пачынаючы ад Рыпінскага і канчаючы Багушэвічам, былі католікі. Гэта дыскусійная справа, наколькі яны імкнуліся адрадзіць беларускую нацыю. Тое, што аўтары пісалі па-беларуску, яшчэ не ўсё... Але з праваслаўнага боку мы гэтага не бачым увогуле. Зерне было пасеяна якраз дзеячамі каталіцка-шляхоцкага накірунку. Лічу, што іхняй памылкай было тое, што яны не выпрацавалі палітычнай праграмы, якую аднолькава магла б успрыняць і каталіцкая меншасць і праваслаўная большасць беларусаў.

Па сутнасці, былі два накірункі: у адным рэчышчы — каталіцка-шляхоцкая плынь, у другім — праваслаўны заходне-русізм. Паміж імі не было нічога агульнага, іх не яднала нават родная мова. Цяпер, у канцы XX стагоддзя, сітуацыя прынцыпова не змянілася. Беларусь па-ранейшаму робіць выбар паміж польскім касцёлам і рускай царквой.

**– Але ж уніяты, уплыў якіх паступова пашыраецца, маюць выразна беларускую арыентацыю...**

— Я лічу, масавай з'явай уніяцтва не стане. Але калі б паўстала дзесяць—дваццаць уніяцкіх парафіяў, гэта мела б пазітыўны ўплыў на беларусізацыю праваслаўя. Гэта стала б каталізатарам беларусізацыі.

Іншая справа: чаму беларуская праваслаўная царква не імкнецца да аўтакефаліі? Гэта справа не толькі царквы: чаму беларускі ўрад не імкнецца да аўтакефалізацыі БПЦ? Паглядзіце, што рабілася ў Польшчы пасля першае сусветнае вайны, калі праваслаўная царква ў Польскай дзяржаве ўся падпарадкоўвалася Маскоўскаму патрыярхату. Урад рабіў вельмі многа, каб унезалежніць гэтую царкву на польскай тэрыторыі ад замежнага цэнтра. Улады не кранапі царкоўных канонаў ці тэалогіі, але што датычыць арганізацыі — тут усё мела вырашаць Варшава, а не Масква. І гэта адбылося, хай з цяжкасцямі. Бо дзяржаўная незалежнасць ствараe інстытуцыянальную базу для аўтакефаліі. На мой погляд, гэтае пытанне мусіць быць вырашана ў Беларусі, і без умяшальніцтва ўрада не абыдзецца.

**– Месца нацыі ў дзяржаве?**

— Важнае месца яна павінна займаць. І не можа быць інакш. Я разумею: трэба лічыцца з рэаліямі. Была праведзеная, асабліва пасля вайны, гэтая страшная русіфікацыя. Тут была сістэма: не толькі адсутнасць школ, але і адсутнасць перспектывы выкарыстання беларускай мовы. Падала грамадскае значэнне мовы і змяншалася зацікаўленне ёй у школах. І таму сёння працэс аднаўлення значнасці беларускай мовы павінен таксама ісці не толькі знізу, праз арганізацыю класаў і школ, але і зверху, праз пашырэнне ейнага ўжывання ў дзяржаўных установах, сродках масавай інфармацыі. Па-беларуску павінен гаварыць урад.

**– Адраджэнне дзяржавы праз адраджэнне народа?**

— Гэта вельмі складана. Працэс павінен пачацца з адраджэння элементарных нацыянальных вартасцяў, але гэта справа на доўгія гады.

**– Ці будзе спрыяць адраджэнню беларускасці ўваход краіны ў сусветную супольнасць, а таксама развіццё ў краіне новых эканамічных адносінаў?**

— Рынкавая сістэма не дапаможа — нацыянальная справа для яе абыякавая. Далей: некаторыя прапаведуюць ідэю адкрыцця межаў, надання ім выключна адміністрацыйнага значэння. У такой сітуацыі, у становішчы, у якім сёння знаходзіцца беларуская культура, мова, гэта было б для іх з'явай абсалютна не карыснай. Вам патрэбна вырасціць прынамсі адно пакаленне да таго часу, як будуць адкрытыя межы.

**– Першаснасць інтарэсаў народа ці дзяржавы?**

— Тут, у Польшчы, гэта адно паняцце. Але ў Беларусі яны могуць не супадаць. Я не хачу даваць гатовых рэцэптаў. Папросту вы самі мусіце мець гэта на ўвазе.

**– Колькі ўжо напісана, колькі сказана пра неабходнасць павышэння самасвядомасці нацыі... Але словы застаюцца словамі. Патрэбныя ўчынкі. Я не разумею, аб чым тут можна спрачацца? Зрабіць школы беларускімі? А можа насельніцтва не захоча? Ну і што? Грамадзянін дзяржавы павінен ведаць дзяржаўную мову, бо ёю ён будзе карыстацца. У гэтым аспекце цікава прасачыць размежаванне "ў вас" – "у нас"?**

— Я беларус, але я — грамадзянін Польшчы. Я ўпэўнены, што ў 70-80-я гады ніводзін, падкрэслю, ніводзін з маіх артыкулаў у вас не быў бы апублікаваны. Значыць, што даследчыкі ў Польшчы незалежна ад таго, якой яны ні былі нацыянальнасці, заўсёды мелі большыя магчымасці, чым даследчыкі на тэрыторыі БССР, таксама незалежна ад іхняга паходжання. Менавіта ў вас на пачатку 80-х гадоў усе мае працы траплялі ў спецфонд. Гэты падзел мае выключна такое значэнне. А ўвогуле мая праца скіравана на памнажэнне здабыткаў і вартасцяў агульнай беларускай навукі, таксама незалежна ад таго, на якой мове будуць напісаныя мае працы.

**– Што Вы ўвогуле скажаце пра беларусаў ў Польшчы?**

— Улічыце адно: тут мы — атожылак нацыі па-за межамі дзяржавы. 200-250 тысяч — гэта вельмі мала. Так, мы маем свае школы, выданні, арганізацыі, але наколькі слабое ўсё гэта... І калі Беларусь не здолее захаваць і абараніць сваю нацыянальную тоесамаснасць, сваю дзяржаўную незалежнасць, мы праз нейкі час будзем папросту асіміляваныя — гэта звычайная з'ява для не маючай нацыянальнай дзяржаўнасці меншасці. Цяпер беларуская дзяржава ствараецца. Але яна павінна працаваць па-дзяржаўнаму. І аднымі з першых трэба ўрэгуляваць дзяржаўна-рэлігійныя спрэчкі. А ўвогуле, я лічу, што сёння гэтую палеміку трэба перажыць. Мы маўчалі дзесяткі гадоў, і яна павінна адбыцца ўжо таму. Іншая рэч, што гэта мае істотнае інтэлектуальнае значэнне. Няхай людзі спрачаюцца, знаходзяць аргументы і контраргументы, выпрацоўваюць канцэпцыі — гэта ўсё пазітыўна. Але не спадзяюся, што сёння, на парозе XXI стагоддзя, канфесійная праблематыка здамінуе.

Гутарку вёў
Уладзімір ПАНАДА.
Фота аўтара.

**Днямі ў рэдакцыю прыйшоў ліст, падпісаны міністрам інфармацыі Рэспублікі Беларусь спадаром Бутэвічам. Пачынаўся ён такімі радкамі: "Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў РБ ад 12 чэрвеня 1992 года № 363 прапануе часцей публікаваць у газетах і часопісах матэрыялы па праблемах стварэння трывалай кармавой базы". Напачатку падумалася — старыя метады, нікому не цікавыя тэмы. Але ж, згадзіцеся, якія б палітычныя калізіі ні адбываліся ў краіне, мы па-ранейшаму кожны дзень ідзём у магазін па малако і хлеб. Займаючыся бізнесам, марым аб смачнай адбіўной. Менавіта сённяшні выпуск эканомікі прысвечаны праблемам вёскі і сельскай гаспадаркі.**



У саўгасе імя Краёва Віцебскага раёна новае жніво пройдзе па старой традыцыі: тут ствараецца некалькі маладзёжных экіпажаў. Першы ўжо ёсць. У яго складзе два Аляксандры – Лапаў і Давыдаў.

Падбіраюцца і іншыя маладзёжныя экіпажы. Як кажуць, новае – гэта добра забытае старое.

Дзякуй Богу, не страціла наша нацыя яшчэ сваёй прагі да працы. І таму, калі не падаруем свой хлеб Маскве, не пагубляем на шляху да сховішчаў, не забудземся пра жніво з-за якіхсьці палітычных нечаканасцяў, будзем мець духмяны кавалак на сваім стале.

Фота А.КОГАЛЯ.

*Жыццё як яно ёсць*

# ШЛЯХ У НЯБЫТ

Вёсачкі, вёсачкі! Невялічкія, прыгожыя, шмат іх некалі было раскідана па прасторах роднай беларускай зямлі. Трыццаць, дваццаць і нават дзесяць хат, пабудаваных па праекту, які ўзнікаў у галаве гаспадара, і ў тым месцы, дзе ён пажадаў. Звычайна гэта ўзвышша, недалёка ад лесу і вадаёма. Усё было побач: чыстая вада, будаўнічыя матэрыялы, дровы, дзічына і грыбы з ягадамі.

Улетку з самага ранку маляўнічыя мясціны поўніліся дзіцячым шматгалоссем, а ўвечары прыпеўкі дзяўчат перакрывалі гукі гармоніка. Вяскоўцы сябравалі, дапамагалі адзін аднаму, збіраліся разам за агульным сталом у святочныя дні. Адным словам, жылі як умелі. Шмат працавалі: прачыналіся на золку, а клаліся толькі з надыходам цемры.

Першы адчувальны ўдар па гэтаму ўсталяванаму стагоддзямі ладу жыцця нанесла калектывізацыя. Яна падсекла пад корань самы працавіты і кемлівы, а таму заможны слой сялянства.

Другі, яшчэ больш бязлітасны, удар нанесла Вялікая Айчынная. Яна не пашкадавала ціхія вёсачкі. Амаль кожная сям'я прынесла ёй ахвяру — на палях баёў засталіся забітыя кулямі і асколкамі варожых снарадаў чыесьці сыны, мужы і бацькі. Многія вёскі былі спалены захопнікамі дашчэнту, асобныя з іх так і не аднавіліся, памерлі.

Трэці ўдар быў нанесены не ворагамі, гэта зноў зрабілі свае. Нехта з кіраўнікоў найвышэйшага ў дзяржаўным маштабе рангу прыляпіў да маленькіх вёсачак ярлык "неперспектыўныя". Тады ў паветры і галовах кіруючых асоб лунала гігантаманія. Вось і ўзбуйнялі гаспадаркі, звозілі жыхароў на цэнтральныя сядзібы, а "неперспектыўныя" ўсё больш прыходзілі ў заняпад.

Апошні, смяротны ўдар нанёс Чарнобыль. Ядавітыя ападкі атамнага выбуху нябачным дажджом нечакана зваліліся на галовы жыхароў, іх хаты, на палітыя салёным потам хлебаробаў палі і лугі. 18 населеных пунктаў Крычаўскага раёна трапілі пад гэты жудасны дождж, сярод іх і вёскі Воўчас з Юркаўкай.

Жыццё там нібы спынілася. Вокны і дзверы многіх хат крыж-накрыж перакрэслены дошкамі. Сёмы год пайшоў, як вяскоўцы пачалі пакідаць родныя мясціны. Ад'язджаюць, між іншым, працаздольныя, толькі пенсіянеры застаюцца дажываць свой век.

## НЕВЯЛІЧКІ ВОЎЧАС

Ён сустрэў нас некранутай цішынёй. Тут засталося не больш як 50 сем'яў. Магазін закрыты (прадавец паехала ў кантору са справаздачай), клуб меў такі выгляд, быццам нядаўна адбыўся налёт варожага атрада.

Летняе сонейка прагрэла паветра да +25 і акно дома было расчынена. З пакоя на вуліцу глядзеў малады мужчына, які трымаў на руках дзіцё. Мы падышлі, прывіталіся, пазнаёміліся з гаспадаром. Ім аказаўся ветэрынарны ўрач калгаса "Памяць Леніна" Юрый Філатаў. Я паклаў на бетонны адліў пад акном катэджа дазіметр і пачаў размову з калгасным спецыялістам. Ён паставіў свайго дзевяцімесячнага сына ножкамі на падаконнік і падтрымліваў яго, а хлопчык з цікавасцю разглядваў незнаёмцаў. Запішчэў дазіметр, і дзіця пацягнулася ручкамі да прыгожай цацкі, нешта па[illegible] рабавальна гаворачы на сваёй, толькі аднаму яму вядомай мове. На шкале прыбора высвецілася лічба 0,026 мікрарэнтгена ў гадзіну. Хто ведае, як гэта адаб'ецца на дзіцячым здароўі.

На маё пытанне — як яно, жыццё сялянскае? — ветурач адказаў вось што:

— Хваліцца няма чым. Жывём усяго ў нейкіх 22-х кіламетрах ад горада, але адчуваем сябе, нібы ў таежнай глушы. Аўтобус да нас ходзіць толькі двойчы на тыдзень. Няма ў вёсцы і фельчара. Праўда, неяк прыязджалі дзіцячыя ўрачы і майго сына агледзелі. Не забяспечваюць сям'ю і дзіцячым харчаваннем, хаця абавязаны рабіць гэта бясплатна. Не песцяць нас і заробкамі. Мой складае ўсяго 1200 рублёў, у той час, калі ветурач мясакамбіната атрымлівае разы ў 4 больш (пры васьмігадзінным рабочым дні). Ці ж гэта справядліва?

Ды што там гаварыць, каб тут было райскае жыццё, дык ад жадаючых адбою б не было. А так апошняя моладзь вёску пакідае. Адбываецца гэта таму, што ад цывілізацыі тут засталіся толькі магазін з самым абмежаваным асартыментам тавараў, тэлевізар, радыё.

І сапраўды, вёска памірае на вачах. Зарастаюць пустазеллем пакінутыя падвор'і. Хто пагодзіцца жыць тут, калі на прыступцы ганка адной з пакінутых хат дазіметр папераменна паказваў 0.027—0,034? Зарастаюць лазой і пустазеллем неапрацаваныя ворныя землі.

Праехалі крыху далей, да калгаснага саду. На дарогу адтуль выскачыў заяц-русак і, лянiва прабегшы паўсотні крокаў, зноў саскочыў у высокую прыдарожную траву. Праз некалькі хвілін з боку вясковых агародаў у сад пабег другі. Непадалёку корпаліся на сваім прысядзібным участку дзве старэнькія бабулькі, як высветлілася пасля знаёмства, сёстры Кацярына і Дуня: адной 91, другой — 81 год. Бабуля Еўдакія Астапенка — салдацкая ўдава, яе муж загінуў на вайне, там жа засталіся і два браты.

Сёстры ўсё жыццё аддалі працы, калгасу. Запыты ў іх самыя мізэрныя, яны звыкліся з нягодамі і не патрабуюць нічога лішняга. Прывязе калгас дроў — і дзякуй Богу, ёсць у магазіне тое-сёе з прадуктаў — хвала Збавіцелю... Яны нават не ўяўляюць сабе, што можа быць інакш, што клопат аб састарэлых можа быць значна большым. Жывуць сціпла, шмат газу і электраэнергіі не расходуюць, пенсіі хапае.

— Вось толькі б нейкіх таблетак ці парашкоў ад галавы прывезлі — баліць, ніякага цярпення няма, а так дажываць можна, — сказала на развітанне малодшая з сясцёр.

## І ЯШЧЭ МЕНШАЯ ЮРКАЎКА

Усяго на нейкія два кіламетры ад'ехалі мы ад асфальтавай стужкі па свежаадсыпанаму палатну прасёлачнай дарогі.

Студня, якая яшчэ поіць нешматлікіх жыхароў, побач зарослая гарлачыкамі сажалка, адкуль нясецца кваканне жаб, а па беразе яе, нібы дырыжор аркестра, важна пахаджвае даўганогі бацян. На погляд гараджаніна, вясковая ідылія. Для мясцовых жа старажылаў, апошніх прадстаўнікоў насельніцтва некалі жыццярадаснай Юркаўкі, у пячонках сядзіць гэтая ідылія, бо калі больш пільна прыгледзецца, то можна заўважыць, як з усіх вясковых куткоў прагглядвае запусценне. Яно ў адзічэлых садах, у зарасніках крапівы і дзядоўніку на вуліцы, у выбітых вокнах і расчыненых дзвярах пакінутых хат.

Толькі на дванаццаці падвор'ях вёсачкі яшчэ тлее агеньчык жыцця і зімовым ранкам з дванаццаці комінаў струменіць у марознае паветра сіні дымок. Самым маладым з жыхароў Юркаўкі з'яўляецца механізатар-пенсіянер В.Ф.Булаўкін, яму 55 год. Астатнім — далёка за 70.

Адна з бабулек стаяла ля сваёй брамкі, прыглядалася з-пад далоні да спыніўшай свой бег незнаёмай машыны. То была Арына Аўдзееўна Стручкова. Усё яе доўгае жыццё, а яна з 1907 года нараджэння, прайшло ў Юркаўцы.

— Дзве дачкі паехалі на Урал, там і жывуць, — кажа Арына Аўдзееўна. — Адзін сын механізатар, што жыў у Бацвінаўцы, памёр, а другі — п'яніца, стаіць на ўліку ў псіхіятра. З ім прама бяда: не дае жыць — б'е. Нядаўна ад яго рук трапіла ў бальніцу, а яго забралі на лячэнне. Не ведаю, што будзе, як выйдзе.

Адной вельмі цяжка. Вось дроў прывезлі з гарпалівазбыту, паспела купіць яшчэ за 215 рублёў, ды дваццатку заплаціла за выгрузку, шафёр скінуў. Цяпер трэба думаць, каб неяк папілаваць, пакалоць.

Вось так і жывуць старая калгасніца і яе сяброўкі, якія па паўсотні гадкоў з свайго жыцця аддалі цяжкай працы ў калгасе. А зараз трапілі ў палон радыенуклідаў (на шкале дазіметра адбіваліся лічбы ад 0,022 да 0,035 мілірэнтгена ў гадзіну) і не вельмі ўважлівых да патрэб састарэлых людзей кіраўнікоў.

Нельга сказаць, каб у Бацвінаўскім сельсавеце і праўленні калгаса "Звязда" зусім не звярталі ўвагі на пенсіянераў і салдацкіх удоў. Ім даплачваюць штомесячна да пенсіі па 40 рублёў, толькі цяпер гэта бачыста сімвалічная сума, яе можа хапіць бабульцы, бадай, толькі на хлеб на месяц. Падсыпалі дарогу, плануюць яе заасфальтаваць, адкрылі ў Юркаўцы магазін, куды завозяць тое-сёе з прадуктаў, наязджае ў вёску фельчар. Яшчэ транспарт калгас выдзяляе на нейкія патрэбы. Вось і ўвесь клопат.

Па ўсім відаць, што праз нейкія 10—15 год назва "Юркаўка" сатрэцца з геаграфічнай карты Крычаўскага раёна, як сцёрліся за апошнія два дзесяцігоддзі назвы 30 населеных пунктаў.

Не стане жыхароў — і вёска памрэ. Разбураць хаты, знішчаць сады, як гэта ў нас ужо не раз бывала, перааруць усё трактарамі, пасля чаго ў Беларусі стане яшчэ больш людзей, у якіх ад "малой радзімы" застаўся адзін запіс у пашпарце. Няўжо ў нашых мілых сэрцу вёсачак такі лёс? Дый зямлі шкада, што застанецца без гаспадара і беражлівага догляду.

Аляксандр Балдоўскі,
г.Крычаў.

Фота С.БРУШКО.



*120 тысяч беларусаў пражываюць у суседняй Латвійскай рэспубліцы. Значная частка з іх — карэнныя крывічы-балткрывы Латальскага краю. 70 гадоў назад тамтэйшыя беларусы распачалі адраджэнскую культурна-асветную работу. Натхняльнікамі ў арганізацыі школьнае і выдавецкае справы, таварыстваў і суполак, прэсы, народнага тэатра былі К.Езавітаў, С.Сахараў, П.Мядзёлка, І.Краскоўскі... "Сьвяты быў час..." — гаварыла настаўніца Э.Д.Казак-Казакевіч з Індры, успамінаючы натхнёныя гады выспявання беларускасці.*

*Першы рэпрэсіўны ўдар нанёс беларускай справе пераварот К.Ульманіса. У час другой сусветнай вайны беларусы Латвіі зноў пачалі ладзіць свой нацыянальны дом. Потым прыйшлі "нашы" і тых, хто не загінуў на франтах Вялікай Айчыннай, каго не паспелі выслаць у Германію, вывезлі ў Сібір: або як кулакоў, або як супрацоўнікаў з фашыстамі (вучыліся ў беларускіх школах ці гімназіях пад акупацыяй).*

*Пасля вайны ў Латвію хлынулі ўцекачы з прымежных беларускіх калгасаў, тысячы юнакоў і дзяўчат машынамі добраахвотна вывозілі ў Латвію на прадпрыемствы саюзнага падначалення. Нездарма ў Даўгаўпілсе цэлы раён новабудоўляў носіць мянушку "Шаркаўшчына".*

*Дзесяткі тысяч нашых суайчыннікаў у Латвіі дажылі да гэтага часу так званым "рускоязычным населением". У многіх з іх прачнулася думка: "Хто я?". Доказам гэтага можа паслужыць прыкметная дзейнасць беларускіх зямляцкіх цэнтраў у Рызе ("Сьвітанак") і ў Даўгаўпілсе ("Уздым").*

*Сёння мы прадстаўляем адно з даследаванняў К.Езавітава — руплівца на ніве беларускага Адраджэння, дзеяча Беларускай Народнай Рэспублікі, дыпламата, асветніка, літаратара. Ён быў выдаўцом і паэтам, здольным арганізатарам, сапраўдным правадыром беларускай нацыянальнай меншасці ў даваеннай Латвіі. Налета яму споўніцца 100 гадоў.*

*Сяргей ПАНІЗЬНІК.*

К.Б.Езавітаў.

# БЕЛАРУСЬ

## (Канспэкт пазашкольнаму працаўніку

### ПРАДМОВА

Наша вясковае і мястовае беларускае настаўніцтва, інтэлігэнцыя і моладзь, жадаючы пазнаёміць сваіх суседзяў-аднавяскоўцаў з гісторыяй беларускага народу і ягоным адраджэнчым рухам, частагусна не маглі гэтага зробіць, бо ня мелі пад рукамі належных матэрыялаў і дапамог.

Яшчэ ўвясну 1922 году, спяшаючыся прыйсьці на дапамогу беларускаму настаўніцтву ў ягонай школьнай і пазашкольнай культурна-асьветнай працы, аўтар гэтага нарысу сабраў і падрыхтаваў выпуск шэрагу дыапазытываў, якія магчыма было-б дэманстраваць з дапамогай чароўнага ліхтара ў часе гутарак з вучнямі, сялянамі і рабочымі на тэмы з гісторыі, этнографіі і географіі Беларусі. Прапанаваныя аўтарам, які тады быў інспэктарам беларускіх пачатковых школ у Латвіі, малюнкі і фатаграфіі былі разгледжаны і прыняты Беларускім Аддзелам. Аддзел заказаў некалькі сотняў дыапозываў, закупіў некалькі чароўных ліхтароў і разаслаў іх у школы для карыстаньня. Пры кождым чароўным ліхтару было каля сотні розных дыапозытываў.

І аўтар, і Беларускі Аддзел думалі, што настаўнікі, маючы ліхтар і дыапозытывы, знойдуць і самастойна апрацуюць тэмы для гутарак і чытаньня, карыстаючыся разасланымі па школах беларускімі бібліатэчкамі. Аднак, практыка некалькіх год паказала, што самім настаўнікам даволі цяжка справіцца з гэтым заданьнем, і ёсьць ліхтары і дыапозытывы, якія стаяць нескарыстанымі ўжо па 2—3 гады.

Вось-жа, каб даць прыклад і матэрыял для гутарак-лекцыяў, аўтар дае тутака кароткі нарыс-канспэкт, які можна чытаць двумя спосабамі: або адразу ўвесь нарыс прачытаць па кніжцы, паказваючы пры гэтым адпаведныя дыапозытывы, сьпіс якіх



К. Б. Езавітаў.

БЕЛАРУСЬ у мінулым і сучасным

Канспэкт пазашкольнаму працаўніку для лекцыяў з чароўным ліхтаром.

РЫГА, 1929.
Беларускае Выдавецтва ў Латвіі.

дадзены пры канцы кніжыцы, або выкарыстаць нарыс толькі як кіраўнічы канспэкт, перакazваючы кожды аддзел самастойна і больш шырока з падрабязным тлумачэньнем кождага малюнка-дыапазытыва. Пры другім спосабе, які трэба лічыць лепшым, лектар не будзе абмяжовывацца простым чытаньнем прапанаемага канспэкту, а перапрацуе і дапоўніць яго сам, наперад узважыць усе свае тлумачэньні да дыапозытываў і, нарэшці, можа разьбіць матэрыял канспэкту на 2—3 асобныя гутаркі-лекцыі.

Сьледам за першаю кніжыцаю, аўтар мае на думцы выдрукаваць яшчэ некалькі канспэктаў-лекцый, кождая з якіх будзе асобным закончаным нарысам з пэўнага пытаньня. Ужо падрыхтаваны і здадзены ў друк дзьве кніжкі "Нарысы тэорыі каапэрацыі" і "Беларусы ў Латвіі".

К.Езавітаў.
Рыга,
7 чэрвеня 1927 году.

### БЕЛАРУСЬ у мінулым і сучасным

**1. Паходжаньне беларускага народу.**

Беларусамі завецца славянскі народ, які насяляе верхнія басэйны рэк: Дняпра, Заходняе Дзьвіны, Віліі, Нёмана і ўвесь басэйн ракі Прыпяці. На гэтай абшырнай тэрыторыі, якая складае 300.000 квадратных кілёмэтраў, жыве цяперака 12.500.000. чалавек жыхарства, з якога 80 працэнтаў складаюць беларусы. З іншых нацыянальнасьцяў на першым мейсцы стаяць жыды, якіх налічваецца 10 працэнтаў, затым ідуць палякі — 4 працэнты, за імі расейцы — 2 працэнты, нарэшці ўкраінцы — 1 працэнт, усе іншыя нацыянальнасьці — латышы, татары, цыганы і іншыя, складаюць разам да 1 працэнта.

Да Усясьветнае вайны 1914-18 году на Беларусі налічвалася жыхарства больш за 15.000.000 чалавек, але вайна і нямецка-расейскі, а затым бальшавіцка-польскі фронты, якія ўвесь час перасоўваліся ад Нёмана да Дзьвіны — Дняпра па тэрыторыі Беларусі,— узялі шмат афяраў ад беларускага народу.

Паходзяць беларусы ад старага славянскага племені, якое само сябе называла "крывічы", што азначае "крыўны" або, "свой па крыві", родны адзін аднаму, "радзімы", "радзіміч". Каб ведаць з якой мяйсцовасьці аграмаднага абшару, занятага крывічамі, паходзе той ці іншы крывіч, асобныя крывіцкія роды часта-густа называлі сябе яшчэ і па тэй мяйсцовасьці, дзе яны жылі.— Адсюль назовы: "палачане" — ад ракі Полаты, "дрыгвічы"*) — ад балоцістых "дрыгвяных" абшараў Меншчыны, "віцебляне" — ад Віцьбы, "гаране" — ад гарыстае мяйсцовасьці паміж Полацкам і Віцебскам і гэтак далей. Частка гэтых гістарычных назоваў захавалася ў народзе і да гэтага часу, а большасьць з іх загінула тады, калі ўлада пачала разьбіваць Беларусь на новыя адміністратыўныя тэрыторыі: валасьці, паветы і губэрні.

Беларусы вельмі чыста захавалі аж да гэтуль свае нацыянальна-славянскія рысы і адзнакі. Гэтаму дапамагло тое, што беларусы не былі змушаны да асіміляцыі з іншымі народамі. Цікава тутака адзначыць, што самі беларусы не жадалі асіміліравацца нават з тымі народамі, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі з даволі даўняга часу: так, мяшаныя бракі з жыдамі, цыганамі, або татарамі на Беларусі амаль зусім не назіраюцца. Славянскі тып, славянскі быт і нават белая льняная славянская вопратка да гэтага часу ўва ўсей сваей чысьціне захавалася на Беларусі.



*НА ЗДЫМКУ: Канстанцін Барысавіч Езавітаў (у цэнтры) сярод супрацоўнікаў газеты "Голас Беларуса" і штомесячніка "Беларуская школа ў Латвіі" 1927 г.*

*) "ДРЫГВА" — па-беларуску, дрыжачае тарпяное балота, якое стварылася на мейсцу калішняга возера.

# у мінулым і сучасным

## для лекцыяў з чароўным ліхтаром)

**II. Пачаткі беларускае дзяржаўнасьці. Хрысьціянства і пісьменасьць.**

Вялікі водны шлях "з Варагаў у Грэкі", які пралягае праз Беларусь з паўначы на поўдзен, і другі вялікі водны шлях "з Захаду на Усход", які некалькімі паралельнымі рэчнымі сыстэмамі прарэзвае Беларусь з захаду на ўсход,— зрабілі тое, што ўжо больш 1000 год таму назад на Беларусі і праз Беларусь шоў вялікі гандэль. Беларускія гарады, якія кантралявалі гэты гандэль і прыймалі ў ім самы чынны ўдзел, вельмі ўмацоўваліся, багацелі і аб'ядноўвалі каля сябе вялікія тэрыторыі. Полацк, Віцебск, Смаленск, Тураў і іншые беларускія гарады ўжо за тысячагодзьдзе да нашае эры ўпамінаюцца, як багатыя гарады, у летапісох і хроніках, як суседзяў беларускіх гэтак і ў гандлёвых народаў Сярэдняземнага мора.

Хрысьціянства ўжо ў IX стагодзьдзі было знаёма беларусам. Сьледам за хрысьціянствам прыйшла на Беларусь і пісьменасьць, якая разьцвіла тутака пышнай кветкай і дала шэраг усясьветна-вядомых славянскіх імёнаў — Княжна Прадслава (Апрасіньня) Полацкая ўжо ў XII веку арганізавала ў Полацку цэлую школу перапішчыкаў кніг; Клімент Смаляціч, які, таксама ў XII стагодзьдзі, але ўжо ў Смаленску, шырока вызначыўся сваімі філёзофска-літэратурнымі творамі, Аўрам Смаленскі, Кірыла Тураўскі, невядомы аўтар знамянітага "Слова аб палку Ігаравым" — вось культурныя сілы Беларусі, якія высока ўзьнялі духоўнае беларускае жыцьцё ў беларускіх нацыянальна-культурных і дзяржаўна-палітычных цэнтрах яшчэ ў XII стагодзьдзі. Гэта значна, што беларускі народ меў ужо магутныя вогнішчы культуры ў такі мамэнт, калі такія цяперашнія цэнтры ў суседзяў беларусаў, як Масква, Петраград, або Рыга,— зусім яшчэ не істнавалі.

Слаўныя культурныя традыцыі беларускіх гарадоў моцна трымаліся сярод тагачаснай крывіцка-беларускай інтэлігэнцыі, пранасіліся праз стагодзьдзі і ізліваліся на абкружаючыя беларусаў суседнія народы.

Полацк, Віцебск, Смаленск, Менск, Тураў і Вільня навыперадкі працуюць над пашырэньнем асьветы і над выпрацоўкаю моцных асноў грамадзка-праўнага ладу. Даволі перачытаць усякія юрыдычныя акты, якія захаваліся сотні тысячаў з XIV стагодзьдзя, або міжнародныя дакумэнты, напрыклад, граматы, і гандлёвыя ўмовы з немцамі з XIII стагодзьдзя, каб пераканацца ў тым, як высока стаяла беларуская культурнасьць таго часу.

Далейшыя стагодзьдзі прынясьлі з сабой яшчэ больш культурны ўзрост Беларусі. Беларуска-літоўскі статут, гэты красамоўны памятнік і сьведка разьвіцьця беларускага права, нацыянальная і навукова-выдавецкая праца знамянітага беларускага вучонага, дохтара Францішка Скарыны з Полацку, які ўжо ў 1525 годзе наладзіў у Вільні беларускі кнігадрук і выпусьціў біблію на беларускай мове ў такі момант, калі яна зьявілася 3-яй па лічбе з усіх бібліяў сьвету (першая — нямецкая, другая — чэская),— вось пакажальнікі духовае роўні і духовае моцы беларускага народу.

**III. Часовая страта беларусамі сваей незалежнае дзяржаўнасьці.**

На моцным эканамічным грунце адбылося аб'еднаньне ўсяго народу беларускага ў Беларуска-Літоўскае Вялікае Княжства. Да гэтага дзяржаўнага арганізму далучыліся і некаторыя суседзі беларусаў: з заходу — жмудзіны (сучасная Літва), з паўдня — значная частка ўкраінцаў. Польшча ў працягу некалькіх стагодзьдзяў апіралася на моцную руку Беларуска-Літоўскае дзяржавы, бачучы для сябе ў хаўрусе з Беларусьсю адзіны ратунак ад нямецкае навалы.

Усе гістарычныя варункі і краёвыя данныя абяцалі Беларусі доўгае, моцнае і спакойнае істнаваньне. Аднак, у дзяржаве адбываліся два працэсы, якія былі прычынаю яе заняпаду. Гэтыя працэсы: рэлігійнае змаганьне паміж каталіцтвам і праваслаўем і абнішчаньне шырокіх народных масаў, папаўшых у прыгонную залежнасьць да многалічнага панства і шляхты. На тэрыторыі Беларусі пачынаецца войстрае і доўгае змаганьне "за Беларусь" паміж Масквой і Варшавай.

У нашым караценькім агляздзе няма магчымасьці падрабязна выклажыць і асьвятліць усе этапы, якія прывялі беларускія абшары пад карону расейскіх імператараў. Трэба падкрэсьліць, аднак, што той уціск усяго беларускага, аб якім гэтак часта і з вялікім абурэньнем успамінаюць цяперака беларусы, пачаўся ў Расеі не адразу. Першыя 70—80 гадоў пасьля далучэньня расійскія цары не адважваліся моцна ўціскаць Беларусь. Царыца Кацярына II, далучыўшы ў 1772 годзе да Расеі першыя кавалкі Беларусі, Віцебшчыну і Магілеўшчыну, знайшла патрэбным абвесьціць тутака, нават, асобнае Беларускае Намесьніцтва і за ўвесь час свайго цараваньня не выяўляла нахілу да вынішчэньня ўсяго беларускага. Шавіністычнае імкненьне зрабіць з Беларусі "Западно-Русскій Край" і зьнішчыць нават самае імя беларуса, замяніўшы яго назовам "западно-руссъ", прыйшло ўжо значна пазьней, у часы Мікалая I, які скасаваў Беларускае Гэнэрал-Губэрнатарства (былое Намесьніцтва) і забараніў ужываньне беларускага друкаванага слова.

**IV. Нацыянальна-адраджэнчы рух**

Дзяржаўна-палітычныя няўдачы, што зваліліся на беларускую Дзяржаву, хаўрусаваўшую з Польшчай, не маглі на-нет зьнішчыць народа беларускага, не забілі яны і беларускае нацыянальнае душы.

Ужо праз якіх-колечы 30-35 гадоў пасьля далучэньня Беларусі да Расеі, зьяўляецца сярод беларускае краёвае інтэлігэнцыі першыя расткі новага беларускага нацыянальна-адраджэнчага руху. Рух гэты пачынаецца, як і ўва ўсіх іншых славянскіх народаў, з новае адраджэнчае літэратуры, абапёртай на сучасную народную мову і на народную вусную творчасьць. У самым пачатку XIX стагодзьдзя зьяўляецца на Беларусі, у беларускай частцы Смаленшчыны, шэраг літэратурных твораў на беларускай народнай мове, сярод якіх асабліва цікавасьць мае вяршаваная паэма невядомага да гэтага часу аўтара — "Энеіда навыварат", дайшоўшая да нас толькі ў невялічкіх, на жаль, адрыўках. Да першага паўстаньня 1831 году на Беларусі выявілася ўжо некалькі паэтаў-інтэлігэнтаў і, нават, адзін паэт з народу, малады беларус-селянін Паўлюк Бахрым. Лёс гэтага першага беларускага паэта-селяніна быў дужа трагічны: за пісаньне беларускіх вершаў, у якіх ён войстра адзываўся і высьмейваў панства, князь Радзівіл аддаў паэта ў салдаты, а вершы ягоныя загадаў зьнішчыць.

Паміж першым і другім паўстаньнем 1863 году лічба беларускіх паэтаў і літэратурных твораў значна ўзрасла. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч паклаў пачатак беларускаму тэатру, напісаўшы п'есу "Пінская Шляхта", якая да гэтага часу з вялікім посьпехам ідзе на сцэне беларускага тэатру; ён жа разам з кампазітарам Манюшкай напісаў першую беларускую оперу "Селянка". Вядомы тагочасны этнограф Ян Чачот паклаў пачатак навуковаму дасьледаваньню беларускай мовы і зьбіраньню фольклёрнага матэрыялу, выпусьціўшы некалькі зборнікаў аб беларусах, з якіх асабліва для нас цікавы "Piosnki wiesniacze z nad Niemna i Dzwiny, w mowie slawiano-krewickiej", Wilno, 1786. Беларускі гісторык О.Турчыновіч зрабіў першую спробу асьвятліць гісторыю Беларусі і напісаў вельмі рэдкую цяперака кніжку — "Обозрѣніе Исторіи Бѣлоруссіи съ древнѣйшихъ временъ", Санктпетербургъ. 1857.

Пасьля другога паўстаньня, у часе якога вядомы беларускі народны герой і рэвалюцыянэр, Кастусь Каліноўскі, выкінуў лёзунг незалежнасьці Беларусі,— да беларусаў і Беларусі зьявілася вялікая цікавасьць з боку расейскіх і польскіх вучоных і журналістаў. Адначасова зьявілася і група беларускіх вучоных, якія горача ўзяліся за навукова-гістарычнае і этнографічна-філёлёгічнае дасьледаваньне Беларусі. І.Насовіч, П.Шэйн, А.Раманаў, М.Нікіфароўскі, У.Дабравольскі, М.Федароўскі, М.Доўнар-Запольскі, М.Янчук, Я.Карскі і інш. — зрабілі шмат укладаў у беларускую гісторыю, этнографію і навуковае дасьледаваньне і апрацаваньне беларускае мовы.




ТЭРЫТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
падзелена ў данны момант на тры часткі:

ЦЭНТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ — з 5.000.000 жыхарства і абшарам у 126.000 кв. кілямэтраў — складае самастойную Беларускую Рэспубліку, якая пад назовам Беларускае Савецкае Социялістычнае Рэспублікі ўваходзе ў Саюз ССР (галоўнейшыя гарады Беларускай ССР: Менск, Полацк, Віцебск, Ворша, Магілёў, Гомель, Бабруйск, Мазыр, Слуцк);

ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ — з 3.500.000 жыхарства і абшарам у 102.000 кв. кілямэтраў — часова акупавана Польшчай (Вільня, Навагрудак, Ліда, Аўгустоў, Гародня, Беласток, Белавежа, Слонім, Ваўкавыск, Бярэсьце, Пінск);

УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ — з 3.000.000 жыхарства і абшарам у 72.000 кв. кілямэтраў — уваходзе пакуль-што ў склад РСФСР, як "Заходняя Вобласць", (Себеж, Невель, Смаленск, Бранск, Рослаў, Старадуб, Клінцы, Новазыбкаў).

У сучаснай Літве жыве невялічкая частка беларусаў у Нова-Аляксандраўскім павеце.

У ЛАТВІЙСКАЙ РЭСПУБЛІЦЫ — па перапісу 1920 году — было налічана 76.000 беларусаў, якія ў пераважнай большасьці жывуць каля самае ўсходняе мяжы Латвіі, на мяжы з Заходняй, Савецкай і Усходняй часткамі Беларусі.




*Паданні*

## ЖЫВАЯ ВАДА

Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, ля яе біла крыніца з жывою вадою. Прыходзілі сюды людзі хворыя і храмыя, а калі мыліся жывою вадою, дык адыходзілі здаровымі. Слава пра цудоўную крыніцу ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных краёў людзей няшчасных на вылячэнне.

Неяк прыйшла аднекуль да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без папытання ў людзей выкупала сабаку ў жывой вадзе.

– Што ты робіш?– абурыліся хворыя і калекі.– Ці ж можна купаць у цудоўнай крыніцы нячыстае стварэнне?

– Мой сабака чысцейшы за вас, паганых,– фанабэрыста адказала пані.

Ніхто з людзей не пасмеў парэчыць знатнай пані і яе здаравенным лакеям.

Як толькі панскі сабака вылез з вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся, жывая вада знікла.

Стогн жаласці пракаціўся па натоўпе... Пані, прадчуваючы нядобрае, праз момант знікла. Людзі кінуліся ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто мог. Капалі і рыдлёўкамі, і рукамі. Капалі і многа, і доўга. Але не маглі трапіць на яе след. Зямля ўсюды была сухая. Засмучаныя людзі разбрыліся па сваіх хатах.

Праз нейкі час на месцы цудадзейнай крыніцы зноў з'явілася вада. Але яна ўжо не біла халодным струменем, а кропля за кропляй сачылася, быццам слёзы. Людзі зноў кінуліся да крыніцы. Кропля да кроплі збіралі ваду і шукалі ў ёй ратунку ад сваіх няшчасцяў і хвароб. Але вада больш не лячыла.

Як знікла крыніца з жывою вадою, на вёску пасыпаліся няшчасце за няшчасцем. Ноччу ўвосень невядома ад чаго згарэла старая царква. Людзі паміралі, як мухі, і некаму было хаваць пакойнікаў. Людзі ва ўсім абвінавачвалі фанабэрыстую знатную пані з сабакам. Не шукалі яны збавення ў крыніцы. Сцежкі да яе хутка зараслі травой і карчамі, а людзі пачалі забываць месца, дзе некалі біла жывая вада. Крыніца ж не дала забыць аб сабе. Нават тады, калі збожжа на палях жоўкне ад няўмольнай засухі, на месцы крыніцы заўсёды кропля за кропляй сочыцца вада, быццам слёзы па загубленым шчасці.

# ЖНІВЕНЬ

*Апошні месяц лета... І хоць стаіць яшчэ гарачыня, грымяць навальніцы, але ўсё больш навокал прыкмет надыходзячай восені. Вечарамі гусцеюць над нізінамі туманы, даўжэйшымі становяцца ночы, а ранкам амаль што марозам дыхае серабрыстая раса.*



### 1. Субота.

470 гадоў назад (1522) Ф.Скарына выдаў у Вільні "Малую падарожную кніжку", у якой надрукаваў першы ўсходнеславянскі царкоўнаастранамічны каляндар.

### 2. Нядзеля.

ІЛЬЯ.

Святы прарок Ілья дзякуючы сваёй набожнасці і змаганню за пашану Бога быў узяты жывым на вогненнай калясніцы на неба. Паводле хрысціянскіх уяўленняў, ад святога Ільі залежыць насыланне дажджоў, а значыць — ураджай. На Ільо стараліся не працаваць, каб не прагнявіць гэтага найпапулярнейшага ў народзе святога, які, раз'язджаючы з грукатам па небе, можа наслаць пажары, засуху на зямлю. Таму звычным лічылася, што Ілья ў свой дзень павінен прыйсці з дажджом: "Ілля наробіць гнілля".

Існавалі на гэта свята больш-менш рацыянальныя аграрныя і метэаралагічныя назіранні: "Калі дождж — будзе жыта ядронае, але маланка папаліць арэхі; калі пагода — павінен быць добры сенакос; калі спякота — трэба чакаць працяглай зімы". Ад Ільі звычайна пачыналася жніво: "Святая Ілля — слаўна жняя", "Свята Ілля копы лічыць". Выспяванне жыта часам вывяралі па ягадах у лесе: паспелі на Ілью чарніцы, значыць, паспела і жыта. Тады ўжо прыказка вуснамі дбайнай гаспадыні сцвярджала: "На Ілію поўну печ хлеба наллю". Дзесьці каля Іллі трэба было "брацца да раллі" — пачыналі араць папарнае поле, рыхтуючыся спаквала да сяўбы азімых: "Да Іллі хоць адным зубам зямлю парні". Свае назіранні мелі і бортнікі: паводле іх сцвярджэнняў, надзейныя раі былі тыя, што выйшлі да Іллі, пасля ж гэтай даты раі амаль нічога не вартыя, і іх лепш не асаджваць, а адпускаць.

Дзень Ільі ўспрымалі як рубеж між летам і восенню: "Ілля жніво пачынае, а лета канчае", "На Ілію да абеду лета, а па абедзе восень", "Да Іллі поп просіць Бога пра дождж, а з Іллі і баба хвартухом яго нагоніць". І яшчэ адна прыкмета: "Прыйшоў Ілля і ўкінуў у ваду лядзяня" — менавіта з гэтага дня забаранялася купацца. Калі, маючы на ўвазе паступовае скарачэнне дня, пра папярэдніх святых гаварылі, што "Пётра-Павел час убавіў", то на гэта свята дабаўлялі: "Ілля-прарок — два ўвалок".

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ.**

### 4. Аўторак.

75 гадоў з дня нараджэння Янкі Брыля (1917), народнага пісьменніка Беларусі.

### 6. Чацвер.

475 гадоў з дня выхаду (1517) у Празе першай кнігі Бібліі, перакладзенай Ф.Скарынай на старабеларускую мову, — "Песни царя Давида, еже словуть Псалтыр". Пачатак беларускага кнігадрукавання.

### 8. Субота.

80 гадоў з дня нараджэння А.Дз.Чарнышэвіча (1912-1967), беларускага пісьменніка.

### 19. Серада.

СПАС (ПРААБРАЖЭННЕ ІСУСА ХРЫСТА)

Свята, прысвечанае ўспаміну падзеі на гары Фавор, апісанай евангелістамі Мацвеем і Лукой. Свята Праабражэння знамянуе сабой будучае жыццё. У гэты дзень асвячаюцца яблыкі і іншыя плады, якія вернуючыя прыносяць у царкву.

80 гадоў з дня нараджэння Б.М.Мікуліча (1912—1954), беларускага пісьменніка.

### 23. Нядзеля.

75 гадоў з дня нараджэння П.Панчанкі (1917), народнага паэта Беларусі.

### 27. Чацвер.

70 гадоў з дня нараджэння (1922) А.І.Махнача, беларускага драматурга, удзельніка абароны Брэсцкай крэпасці ў Вялікую Айчынную вайну.

### 28. Пятніца.

Прачыстая, Спажа (успенне Божай Маці)

Дзень смерці Божае Маці і ўзяцце яе на неба.

"Прачыстая прынясе хлеба чыстага", "Спажа — хлеба дзяжа".

### 31. Панядзелак.

70 гадоў назад (1922) Я.Купала закончыў у Акопах камедыю "Тутэйшыя".

70 гадоў з дня нараджэння (1922) У.М.Шыціка, беларускага пісьменніка.



*Літаратурны каляндар*

# НАРОДНЫЯ



Хто іх не ведае! Яшчэ ў школе яны сталі нашымі знаёмымі, нашымі шаноўнымі. Помніце Даніка Мальца з "Сірочага хлеба", працаўніцу маці з аднайменнага апавядання? "Пан Даніла Малец адмарозіў палец",– паўтаралі мы, малыя, на перапынку, гуляючы ў соўгачку. Было смешна. Мы выраслі, але пра "Сінія касачы" не забыліся. І помніцца "Маё і тваё маленства", "Герой", "Краіна мая"...

*Ні славы, ні скарбаў я не хачу,*
*Мне б толькі прайсці непрыкметна,*
*Зямлю сваю пад нагамі адчуць,*
*Надыхацца родным паветрам...*

Янка Брыль... Пімен Панчанка... На літаратурным небасхіле запальваюцца новыя зоркі, але не засціць ім таленту нашых народных.

У жніўні Івану Антонавічу і Пімену Емяльянавічу спаўняецца па семдзесят пяць год. Нам бы вашу мудрасці!

"Чырваназменаўцы" шчыра віншуюць юбіляраў, зычаць здароўя і новых твораў, жадаюць заставацца такімі ж маладымі, якімі ўпершыню прыйшлі да нас са старонак школьных падручнікаў.

*Янка Брыль*

"...Адно я ведаю цвёрда:

Вышэй за ўсё і перш за ўсё — чалавечнасць. Я веру ў гэта ўсё сваё жыццё, і толькі гэта засталося б у мяне, калі б прыйшло найбольшае ці апошняе гора".

"Вывучу столькі, колькі трэба, каб ведаць, куды я прыйшоў, што мне рабіць і як мне пайсці адгэтуль. І ніколі не будзе зашмат, і не будзе вялікага смутку, што я не ўведаў усяго, бо ў пазнаванні — радасць, а яна бясконцая".

*Пімен Панчанка*



## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Ільняная і жытнёвая. Сялянская.
Баравая ў казачнай красе.
Старажытная. Ты самая славянская.
Светлая, як травы ў расе.
Вобразная, вольная, пявучая,
Мова беларуская мая!
Дратавалі, здзекваліся, мучылі...
Ты жыла і ў працы і ў баях.
Пра цябе, як сонечнае дзіва,
І Купала, ды і ўсе мы снілі сны...
Ад цябе, ласкавай і праўдзівай,
Адракаюцца цяпер твае сыны.
Пра народ мой, цярплівы, працавіты,
Помняць партызанскія лясы...
Хто за намі? Пакаленне прагавітых.
Халуёў я чую галасы.
Я спяваў пра жыта і пра жаўранкаў,
Ненавідзеў акупантаў і прыгнёт,
А сягоння — вялікадзяржаўнікаў,
Што разбэсцілі вялікі мой народ.
Навучылі не рабіць —
Хлусіць і красці.
Дзеці ў школы з іншай моваю бягуць.
Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,
Ды люблю сваю зямлю... і не магу.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*Беларускія народныя казкі*




# ЦУДОЎНАЯ ДУДКА

Даўно яно было ці нядаўна, так ці не так — цяпер ужо, напэўна, ніхто не ведае.

Ну, дык раскажам мы тое, што дзяды расказвалі сваім унукам, а ўнукі — сваім унукам.

Жылі некалісь ў адным краі людзі ў згодзе ды ў ладзе. Зямлі многа, усюды вольна — адзін аднаму не перашкаджалі, а прыйдзе да каго бяда — адзін аднаму дапамагалі, бяду перамагалі.

Але вось панадзіўся аднекуль лятаць у той край страшэнны змей. Пачаў ён лятаць, людское дабро хапаць, сабе ў змяінае логава цягаць.

Нацягаў дабра— дзяваць няма куды! Надумаўся ён тады сабе харомы будаваць. Ды сам рабіць і не ўмее, і лянуецца. Не прывык змей працаваць. Пачаў ён людзей лавіць, у сваё змяінае царства насіць.

Наловіць людзей і прымушае іх харомы будаваць, глыбокімі канавамі абкопваць, высокімі насыпамі абсыпаць, густою агароджаю абстаўляць. А служкам сваім — цівунам ды гайдукам — загады дае: людзей не шкадаваць, біць іх, караць.

Робяць людзі на змея, як дзень, так ноч працуюць, гаруюць, горкую долю праклінаюць, без пары паміраюць.

А змей усё новых людзей хапае. Нарабіў ён сабе людскою працаю безліч харомаў, праклаў між імі дарогу, наставіў платоў-агароджаў. Пухнуць людзі з голаду, мруць як мухі. І чым далей, тым горай: няма ратунку ад змея.

Але вось пастарэў змей, знясілеў і ляжыць, як здыхата, не можа ўжо людзей і іхняе дабро хапаць.

Тым часам змеевы служкі — цівуны ды гайдукі — самі панамі парабіліся ды пачалі са змеевых харомаў распаўзацца, за людзьмі ганяцца. І стала людзям яшчэ горш ад паноў, як ад таго дохлага змея. Нідзе ад іх не схаваешся: запаланілі яны ўвесь край.

А каб не быць да людзей падобнымі, навыдумлялі сабе паны розных новых імёнаў ды прозвішчаў. Хто назваў сябе Ваўком, хто Мядзведзем або іншым зверам, хто Каршуном, Варонай, а хто якім дрэвам.

Вось адкуль і ўзяліся паны Ваўкі, Свінскія, Асінскія... Простых жа людзей цяпер яны інача́й як быдлам і не называлі.

Служаць людзі дохламу змею, служаць панам, апошняе ім аддаюць, а самі ў голадзе ды ў холадзе за працаю свету не бачаць.

Гэтак і жывуць. Адны паміраюць, другія нараджаюцца, а палёгкі няма ніякай. І ніхто не ведае, што зрабіць, каб жыццё змяніць.

Ды вось нарадзіўся ў тым краі хлопчык. Быў ён вельмі ж слабенькі: як занапаў змалку, дык ніяк і паправіцца не можа. Такі ўдаўся кволы, што нават паны яго не чапаюць, на паншчыну не ганяюць: нікому ён не патрэбен.

Вырас ён ужо, у гады ўвайшоў, а ўсё толькі з дзецьмі гуляе, як маленькі. І празвалі яго людзі Іванкам Прастачком.

Сядзіць Іванка Прастачок узімку на печы, цацкі з лучынак складае, а ўлетку пясок на прызбе перасыпае.

Трапілі аднойчы ў тую вёску, дзе жыў Іванка Прастачок, тры старцы-падарожнікі. Куды ні зойдуць — усюды пуста, ні жывой душы: усіх паны на работу пагналі.

Убачылі старцы на прызбе Іванку і зайшлі на яго двор адпачыць.

Селі, адпачылі, люлькі тытунём набілі. Памацалі ў кішэнях — ды ні ў каго крэсіва няма, каб агню выкрасіць. Просяць старцы ў Іванкі агню. Пайшоў Іванка ў хату, набраў з прыпечка жару ды вынес старцам.

Закурылі старцы люлькі, падзякавалі Іванку і пытаюцца, што ён дома робіць.

— Пясок на прызбе перасыпаю,— адказвае Іванка.— Бо ўсё роўна, што ні рабі, то на паноў ідзе...

Паслухалі старцы Іванку, галовамі паківалі, потым леры ўзялі ды гучна зайгралі.

Першы раз зайгралі — вялікі розум Іванку далі.

Другі раз зайгралі — талент да слова і музыкі далі.

Трэці раз зайгралі — на паноў у сэрца гневу нагналі.

Пайшлі старцы, а Іванка чуе, як светла стала ў яго думках, як гнеў на паноў забушаваў у сэрцы... Пачаў ён за справу брацца, у свет збірацца.

Зрабіў дудку-весялушку ды так зайграў, што не толькі людзі — звяры і птушкі заслухаліся.

І стаў Іванка між людзей хадзіць, на цудоўнай дудцы іграць, праўду пра змея і яго слуг казаць.

Пачалі людзям вочы адкрывацца. Убачылі яны, што вялікая крыўда на свеце жыве: адны пануюць, а другія гаруюць, адны багаццю ліку не маюць, а другія з голаду паміраюць.

І дзе не пройдзе Іванка — людзі там розуму ад яго набіраюцца, за вілы і сякеры хапаюцца ды з ліхімі панамі змагаюцца.

Думаюць паны, гадаюць, як Іванку са свету звесці.

Пачалі яны войска збіраць, Іванку шукаць. Чуюць голас на ўсходзе — шусь туды. Шаблі звіняць, пікі, як лес, тырчаць, гарматы, як гром, грымяць, а Іванкі нідзе не відаць...

Спыняцца паны з войскам, слухаюць, стаяць. Аж раптам чуюць голас на захадзе — Іванкава дудка іграе, людзей навучае, на вялікую бітву ўзнімае. Толькі пошчак ідзе-гуляе ад сяла да сяла, ад краю да краю. Кінуцца паны на захад. Коні, як віхор, ляцяць, шаблі звіняць, гарматы страляюць, а дзе Іванка — не знаюць.

І з таго часу змеевым слугам ні ўдзень, ні ўначы няма спакою. Як толькі дудку пачуюць, дык адразу мароз у іх па скуры пойдзе, бо чакаюць яны сабе бяды, як вол доўбні.

Дудка ж свішча, дудка грае, пошчак далёка па свеце гуляе, людзей збірае. Яго ні злавіць, ні з гармат не забіць. Усюды ён шлях пракладае, ніякіх межаў не знае.

Іграе дудка, іграе, а прыйдзе час — усіх паноў пазнішчае.



*Навуковы погляд*

# ПРАВА НА БУДУЧЫНЮ

Гістарычны вопыт сведчыць, што тыя народы, якія гублялі сваю мову, даволі хутка падвяргаліся асіміляцыі, страчвалі непаўторныя, арыгінальныя рысы сваёй матэрыяльнай і духоўнай культуры. Менавіта мова, на думку многіх вучоных, з'яўляецца адным з галоўных фактараў кансалідацыі і паспяховага развіцця нацыі.

Як вядома, беларуская мова ў XIV-XVII стагоддзях была адзінаю дзяржаўнаю мовай на ўсёй тэрыторыі тагачаснага Вялікага княства Літоўскага, у склад якога ўваходзілі і беларускія землі. Акрамя беларусаў ("або беларусцаў"), у той час ёй актыўна карысталіся літвіны, жмудзіны, яўрэі, цыганы, татары. Між іншым, апошнія ў XVI стагоддзі пісалі беларускія тэксты, выкарыстоўваючы арабскі алфавіт.

На беларускай мове ў тыя далёкія часіны вялося справаводства дзяржаўных органаў, пісаліся розныя граматы князёў, статуты, судовыя пастановы. У 1517 годзе вялікім асветнікам доктарам Францішкам Скарынай была выдадзена першая друкаваная кніга на беларускай мове – Стары Запавет Бібліі.

Аднак з XVII стагоддзя, калі пачаўся занепад магутнага княства Літоўскага і фактычнае яго падпарадкаванне Рэчы Паспалітай, паступова ўжыванне беларускай мовы абмяжоўваецца, яна выцясняецца польскай мовай. Спачатку гэтыя працэсы ішлі даволі марудна. Адміністрацыйныя пасады пачалі займаць у асноўным палякі альбо прадстаўнікі апалячанай, акаталічанай беларускай шляхты. Немалую ролю ў гэтым адыграла і гвалтоўнае распаўсюджванне сярод мясцовага праваслаўнага насельніцтва (часцей сярод беларусаў) уніяцкага веравызнання.

Але спадзяванні польскіх каралёў на хуткую паланізацыю беларускага народа здзейсніліся не адразу. Многія "беларусцы" не хацелі выракацца роднай мовы, захавалі яе ў літаратурных творах, фальклоры, у прыватных гутарках і г.д. Таму польскія ўлады былі вымушаны спецыяльнай пастановай у 1696 годзе забараніць выкарыстанне беларускай мовы ў справаводстве судоў і дзяржаўных органаў. Потым мова беларускага народа была амаль цалкам выцеснена з навучальных устаноў, з выдавецкай справы.

У канцы XVIII стагоддзя ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі былі далучаны да Расійскай Імперыі. У той перыяд пачала шырока распаўсюджвацца ўжо руская мова, выцесніла як беларускую, так і польскую мовы. Безумоўна, меў падставы Якуб Колас сцвярджаць, што ў XVIII-XIX стагоддзях беларуская мова "здавалася б, і існавала толькі для таго, каб пазабавіцца над ёю і пасмяяцца".

Асабліва неспрыяльныя ўмовы для існавання нашай мовы склаліся пасля падаўлення двух паўстанняў: 1830-1831 і 1863-1864 гг. У 1839 годзе царскі ўказ забараніў ужываць у цэрквах і касцёлах беларускую мову, а ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў XIX стагоддзя ўвогуле стала немагчыма друкаваць на ёй кнігі. Нярэдка ў XIX стагоддзі нават буйныя мовазнаўцы, гісторыкі лічылі беларускую мову ўсяго толькі нейкім "наречием", "поднаречием" або "акцентом" рускай мовы. Ды і ўвесь беларускі народ разглядаўся тагачаснымі чыноўнікамі-бюракратамі не як асобны, самастойны этнас, а як "этнаграфічная група" рускага ці польскага народа. Падобныя стэрэатыпы і забабоны не былі ў пэўнай меры перагледжаны нават і ў дваццатых гадах нашага стагоддзя, у перыяд правядзення беларусізацыі ў рэспубліцы. Нават сялянства працягвала лічыць беларускую мову "халопскай", у якой няма будучыні. Аднак за гады беларусізацыі былі дасягнуты значныя поспехі ў пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы. Толькі ж недзе з канца дваццатых – пачатку трыццатых гадоў пачалі набіраць моц абсалютна супрацьлеглыя працэсы. Пад прыкрыццём барацьбы з так званым "беларускім буржуазным нацыянал-дэмакратызмам" практычна была поўнасцю згорнута беларусізацыя.

На жаль, яшчэ і зараз многія з нас не адмовіліся ад погляду на беларускую мову як на нераўнапраўную. Але яна, безумоўна, мае поўнае права на будучыню. І настаў яе час.

Эдуард ДУБЯНЕЦКІ.



# Вогнішчы сініх начэй, або Дэпалітызацыя па-піянерску

Палову светлых летніх дзён свайго дзяцінства пераважная большасць людзей майго пакалення праводзіла ў піянерскіх лагерах. Тут адразу прыгадваюцца піянерскія — два разы на дзень — лінейкі і заштампаваныя дарэшты назовы атрадаў — "Данка", "Дружба", "Факел" і да т.п. З таго ж шэрагу: конкурс строю і песні, абавязкова інсцэніраванай песні ("Эту песню запевает молодежь") і, канешне, "Зарніца" ("блакітныя" супраць "жоўтых", каб, крый божа, не ўзнікла ніякіх асацыяцый). І як адваротны бок "піянерскага адпачынку" — "пабегі" за тэрыторыю, начное намазванне пастай і бойкі падушкамі.

Што ўзгадаюць цяперашнія 12-гадовыя? Па-першае, піянерскі лагер на Беларусі застаўся адзін — "Зубраня", што на Нарачы. Астатнія — лагеры аздараўлення і адпачынку. Так што, адзью, лінейкі і агляды строю і сам строй таксама. Што ж узамен?

Па вялікаму рахунку — а нічога! Так не бывае, скажаце вы. І будзеце мець рацыю. Воляю лёсу прыйшлося мне правесці каля тыдня ў "Зубраняці" на Нарачы. А калі дадаць, што там жа давялося мне быць 5 год таму, то, зразумела, былі ўсе магчымасці параўноўваць.

Заўвага першая. Праз страўнік праходзіць не толькі шлях да сэрца мужчын, але і — шлях да сэрца дзіцяці. І ў "Зубраняці" ён ацэньваецца ў 35 руб. на дзень. У "Чайцы" — "прафсаюзным" лагеры побач — каля сотні. І нягледзячы на гэта, дзеці з "Чайкі" хацелі б у "Зубраня", і вельмі рэдка — наадварот.

Заўвага другая. Пры першым позірку на тэрыторыю лагера ўзнікае ўражанне, што за 5 год адбываліся змены толькі да горшага. Ці, калі сказаць па шчырасці, не рабілася нічога. Адным словам, беднасць.

Заўвага трэцяя. "Зубраня" фінансуецца з бюджэту. Таму заробкі тут мінімальныя. Але чамусьці ладзяцца імпрэзы, і нават простым вокам бачная праца важатых, праца не пастухоў пры статку, але завадатараў. Мяне здзіўляла: і адкуль столькі энергіі ў гэтых студэнтаў, амаль яшчэ дзяцей, якія часам працуюць і па 14 гадзін у суткі, і харчуюцца тымі ж "дзіцячымі" порцыямі, тут жа, у сталоўцы (дзе які год усе абыходзяцца без відэльцаў з любой стравай).

Пасля вяртання ў Мінск у Цэнтральным савеце піянерскай арганізацыі імя У.І.Леніна я чытала Статут арганізацыі, складзены разам дарослымі і дзецьмі — незаідэалагізаваны, але і не "абяспраўлены" адсутнасцю аб'ядноўваючай ідэі. І метадычныя распрацоўкі — выхаваўчыя гульні і сур'ёзныя справы ("Дзеці і бізнес", "Дзеці і міласэрнасць" і інш.), якія, як мяркуецца, заменяць ранейшыя "асаветызаваныя" піянерскія імпрэзы.

Калі тое, што дэкларуецца зараз гэтай арганізацыяй, спраўдзіцца, мы будзем мець добрую дзіцячую арганізацыю ў шэрагу іншых.

У дарослых хапае сілы на метадычнае і не хапае сродкаў на матэрыяльнае забеспячэнне адзінага ў рэспубліцы піянерскага лагера. І ладзяцца летнія "палатачныя гарадкі". А піянерыя зарабляе грошы на свае дзіцячыя імпрэзы, адпраўляючы "турыстаў-камерсантаў" за мяжу.

В.АКУЛІЧ.





**Скажу шчыра: мне цяжка было "ўзяцца" за гэты матэрыял. І не таму, што тэма гэта ў нас яшчэ да канца "не распранутая", а людскія адносіны заўсёды абуральныя. Прычына ў іншым: Анжэла – мая сяброўка. Знаёмыя мы ўжо больш за дзесяць гадоў, пяць апошніх з якіх Анжэла сама сябе без сораму называе прастытуткай. З дзяцінства добра ведаю гэтае "скажы, хто твой сябар...", але, як і раней, лічу Анжэлу сваёй сяброўкай...**




...Не ведаю, што на гэты конт скажуць мужчыны, але Анжэла лічыць свае прыродныя даныя самымі "кідкімі" для моцнага полу: высокі рост, хударлявы целасклад, вялікія шэра-блакітныя вочы, доўгія светлыя валасы. Ну, і, канешне, ногі. Іх даўжыня мала чым уступае нагам славутай Джуліі Робертс. Да ўсяго гэтага трошкі касметыкі, з тым выхаваным густам, які, безумоўна, ёсць у Анжэлы, і таго яе натуральнага такту і інтэлекту... Цяжка нават уявіць мужчыну (да канца ў поўным сэнсе гэтага слова), які б не стаў палоннікам маёй прыгажуні-сяброўкі. Анжэла ў гэтым пераконваецца ўжо шосты год. Цяпер ёй — дваццаць сем. Сем гадоў яе сыну Марку і столькі ж, як яна развіталася са сваім мужам і бацькам Марка. У свой час скончыла інстытут замежных моў...

**– Быццам бы рыхтавалася ў прастытуткі, палічыць нехта, – з усмешкай дадала Анжэла, калі я прыгадала пра інстытут.– Але ж не адмаўляйся – валоданне мовамі ўсё ж дапамагае...**

— Я і не адмаўляюся. Проста... Ведаеш, мы выхаваны не так, каб без абразы ўспрыняць прастытутку. І ў большай сваёй частцы мы лічым прастытуцыю горкім выбарам, вынікам нястачы, жабрацтва...

**– Сапраўды, ведаючы твае ўмовы жыцця да замужжа і пасля, мне цяжка знайсці матывы твайго выбару...**

— А ці лёгка ўвогуле знайсці матывы нашым учынкам? У мяне не атрымалася сямейнае жыццё — былі вельмі складаныя адносіны з мужам, асабліва пасля таго, як я аднойчы выпадкова і для сябе і, відаць, для яго пераканалася ў здрадзе. На той час у маім жыцці быў толькі адзін мужчына — мой муж. Я была цяжарная. Напэўна, многія з жанчын позна ці рана становяцца перад фактам мужчынскай здрады, аднак не многія могуць дараваць. Я раз і назаўсёды вырашыла, што болей аднаго на дваіх ложка ў нас не будзе. Мы рассталіся, калі нашаму сыну быў толькі месяц. І цяпер я не хачу гаварыць пра гэта. Пра замужжа я болей не думала. Канешне, з часам у мяне з'явіўся палюбоўнік, але мы нічым адзін аднаму не былі абавязаны, і гэта мяне задавальняла. Я аддавала сябе толькі сыну, на ўласнае жыццё заставаліся лічаныя хвіліны. Увогуле ў той час я ненавідзела мужчын. Можа, таму і стала прастытуткай...

**– Анжэла, калі шчыра, я не бачу тут логікі...**

— Усё вельмі проста. Прастытуцыя — гэта праца, якую добра аплачваюць. Гэта чыста механічная работа, якую кантралюе мозг. Эмоцыі тут толькі на самым павярхоўным узроўні. Ці шчырыя прастытуткі? Давайце не будзем жартаваць. Прастытутка адчувае задавальненне толькі два разы: калі мужчына дастае свой бумажнік і калі ён знікае.

**– Ці цяжка "вылічыць" кліента, каб атрымаць гэтыя задавальненні?**

— Калі хто думае, што "дапаможа" знешні выгляд — памыляецца. Я сустракала многіх мужчын, апранутых у касцюмы ад Кардэна, якім ледзь-ледзь хапала разлічыцца, і ў той жа час магу прыгадаць шмат адваротных выпадкаў...

**– Дарэчы, ты працуеш выключна з замежным кантынгентам. Тут, відаць, існуюць нейкія свае законы...**

— Закон прастытуцыі адзін — як мага даражэй прадаць сваё цела. І свае здольнасці. У такім выпадку самыя пажаданыя "пакупнікі" — заходнеўрапейскія і амерыканскія бізнесмены. Утрымаць такога мужчыну як мага больш часу — сапраўднае майстэрства. Што тычыцца работы з замежнымі кліентамі, то гэта прывілея "моцнай прастытуцыі", у клан якой трапіць складана. Выключныя знешнія даныя, густ, такт, сексуальныя здольн. .ці, эрудыцыя, прыстойнасць ды яшчэ шмат чаго...

**– Што цябе больш усяго ўзбуджае ў мужчыне?**

— Тоўсты кашалёк, высокі рост і блакітныя вочы.

**– Гэта ты сказала як прастытутка. Я маю на ўвазе кашалёк. Але няўжо ты ніколі не глядзіш на мужчыну вачыма, якія нічога не прадаюць?**

— Такія вочы, якія, як ты сказала, "нічога не прадаюць", ёсць у кожнай жанчыны. І я не выключэнне.

**– Ты і твой сын апранаецеся выключна за валюту. Акрамя таго, дарагая мэбля ў кватэры...**

— Ты хочаш запытаць пра даходы? Калі ласка. 200-300 даляраў ноч. Гэта плата не за задавальненне, гэта грошы за працу.

**– Значыць, праца і задавальненне ад яе ў прастытуткі не перакрыжоўваюцца?**

— Звычайна так. Калі хочаш і калі гэта не вельмі разбэсціць чытача, магу "намаляваць" карціну з жыцця прастытуткі. Жэрмэн (Роберт, Курт, Майкл), падыходзячы да мяне, моўчкі ўсміхаецца і пытаецца пра цану, якую я яму адразу называю. Ягонае "о'кэй" — і мы ў нумары. Віно, віскі, шакалад. Некалькі хвілін сарамлівасці — і ён рызыкуе мяне абняць. І часам, наіўны, не ведае, што прастытуткі ніколі не цалуюць у вусны. Ён праводзіць мяне ў ванную. Так, ён хоча глядзець, як я мыюся. Усе любяць глядзець на гэта. Не хвалюйся, Жэрмэн (Роберт...), я здаровая. Ідзі ў ложак. Я не прымушу цябе доўга чакаць... Магчыма, я знайшла рытм, які цябе ўзбуджае, але не спадзявайся, што я буду цалаваць твае вусны і плечы... Ты выдаеш незразумелыя гукі і нават крыкі. Што ж, магчыма, табе сапраўды было добра, але цела тваё ўжо астыла і дыханне прыйшло ў норму. Механічна адказваю на твае пытанні, якія чула ўжо тысячу разоў. Ніштo не можа выразіць тую духоўную пустату, якой мы дасягнулі. Што мяне ўратоўвае, дык гэта тое, што я пагарджаю вамі больш, чым вы мною. Ты хочаш авалодаць мной яшчэ раз. Добра, але не забывай пра дадатковую плату. Рабі што хочаш, але не ўяўляй, што я дасягнула аргазму... Апранаемся. Мы зноў незнаёмыя паміж сабой. І ў кожнага сваё жыццё...

**– Анжэла, ведаеш, што прастытуткі трапляюць у групу павышанай рызыкі...**

— З распаўсюджваннем СНІДу ў гэтую групу можа трапіць кожны. Я рэгулярна наведваюся да ўрача. А мая кліентура — людзі самастойныя, якія хочуць быць упэўнены ўва мне не менш, як я ў іх.

**– Што такое для цябе жаночы гонар, сумленне?**

— Канешне, не зусім тое, пра што пісалі ў школьным падручніку этыкі. Прыстойнасць ва ўсім, пачуццё ўласнай годнасці.

**– І ўсё ж вернемся трохі назад – калі глядзець вачамі не прастытуткі, а жанчыны, якія мужчыны падабаюцца?**

— Палкія. Моцныя. Каб не прасіў, а браў. Каб натура была. Характар. Кожнай жанчыне часам хочацца, каб яе згвалтавалі, каб з-за яе страчвалі розум...

**Твае родныя, сябры. Як яны ставяцца да твайго выбару?**

— Майя, як ты ставішся да майго выбару? Мне здаецца, ёсць рэчы, якія кожны для сябе выбірае сам. Галоўнае, заўсёды заставацца сябрам, дачкой, маці ў самым высокім сэнсе.

**– Твае адносіны да магчымасці адкрыцця ў нас публічных дамоў?**

— Гэта — нармальная з'ява. Мне здаецца, што, калі легалізаваць усё "недазволенае", цікавасці да гэтага апошняга стане менш.

**– Што б ты магла параіць дзяўчынкам, якія сёння робяць (ці хочуць зрабіць) першыя крокі на шляху да прастытуцыі?**

— Я параіла б ім не рабіць гэтага. Бо гэта цяжкі шлях. За далярамі і раскошай хаваецца людская ганьба, праклён родных. Ды і даляры часам для многіх дзяўчат застаюцца толькі марай, бо трапіць у вышэйшы разрад прастытуткі вельмі складана і гэтага дасягаюць адзінкі. У асноўным дзяўчынкі на гэтым шляху дасягаюць не матэрыяльнага дабрабыту, а страчваюць здароўе, губляюць пачуццё ўласнай годнасці і гатовыя ісці на любыя палавыя кантакты, бо свае законы пачынае дыктаваць "разбэшчаная" прырода.

**– У цябе расце сын, які ўжо добра ўсё разумее. Ты не баішся, што ён можа даведацца пра тваю прафесію?**

— Гэта мяне хвалюе ўвесь час. Ён не павінен нічога ведаць.

**– Анжэла, табе дваццаць сем. Міне яшчэ, скажам, гадоў дзесяць. Твая прафесія, як ніякая іншая, падпарадкоўваецца ўзросту. А што далей?**

— Я пакуль што яшчэ не думала, хаця ўсялякая справа патрабуе свайго завяршэння... У мяне ёсць і іншая прафесія — перакладчык. І паколькі я рэгулярна практыкуюся ў замежных мовах, спадзяюся, што кваліфікацыю перакладчыцы не страчу.

...Мы сядзелі ўдзвюх і пілі каву. Я і мая даўняя сяброўка, некалі школьная выдатніца і актывістка. Яна сама вызначыла сабе гэты шлях. Шлях, на якім пазнала ўсё: вялікія грошы і людскую абразу, дарагія задавальненні жыцця і роспач ад невядомай будучыні...

За намі моўчкі назіраў цёплы ліпеньскі надвячорак за акном.

Майя ШЭНДРЫК.

*Школа прыватных дэтэктываў*

# УРОК ДРУГІ:

## Як абараніць свой офіс ці кватэру

У наш час амаль у кожнага звычайнага грамадзяніна СНД ёсць унікальная магчымасць адчуць сябе ў ролі Шэрлака Холмса. І сапраўды: не паклапоцішся сам пра бяспеку сваю і сваіх родных — і міліцыя не дапаможа.

У большасці выпадкаў гаспадар кватэры акуратна замыкае дзверы на замок, не падазраючы, што, па сутнасці замкнутыя ім дзверы — гэта не перашкода для ажыццяўлення грабяжу. Вядома, можна паставіць трывалыя жалезныя дзверы пры дапамозе ўсюдыісных кааператараў — за 2—3 тысячы. Між тым можна значна хутчэй, прасцей і з мінімальнымі затратамі абараніць свой дом ці офіс ад няпрошаных гасцей.

Перш за ўсё вызначыць, з чаго складаюцца вашы дзверы. Іх трываласць можна палепшыць, калі дадаткова абабіць фанерай або абклеіць паверхню некалькімі слаямі шклотканіны. Важную ролю мае замок. Калі на дзвярах стаіць накладны алюмініевы замок — ён вам не дапаможа. Ганяцца за імпартнымі замкамі няма неабходнасці, яны такія ж дрэнныя, як і нашы. Можна карыстацца замкамі фінскай фірмы "Аблой", замкамі завода Арджанікідзе, вазаўскімі замкамі. Надзейныя замкі санкт-пецярбугскага завода тыпу "краб".

Але які б добры ні быў замок, ён павінен моцна "сядзець" у дзвярах. Для гэтага прымацуйце з унутранага і знешняга бакоў дзвярэй металічныя пласціны, на якія прыкруціце замок і дэкаратыўныя накладкі трывалымі шрубкамі. Адзін са спосабаў пракрасціся ў кватэру — здыманне дзвярэй з завес. Каб гэтага не дапусціць, скарыстайце некаторыя парады.

Перш за ўсё праверце, каб завесы на дзвярах моцна сядзелі на сваіх месцах, а таксама звярніце ўвагу на верхні штыр, які будаўнікі, каб лягчэй было надзець дзверы, апускаюць і забываюцца падняць. Гэта дробязь прыводзіць да таго, што дзверы можна лёгка падняць знізу. Галоўную ролю адыгрываюць страховачныя штыры, якія мацуюць вушакі да праёму сцяны. Але не дапускайце памылак пры замацаванні дзвярэй штырамі: у некаторых выпадках яны не могуць перасцерагчы ад "распору" вушакоў.

Справа ў тым, што праём для вушакоў ва ўсіх дамах робіцца намнога большы, і пры ўстаноўцы дзвярэй паміж вушакамі і сцяной ствараецца пустата, якая звычайна забіваецца пакуллем і ватай і прыкрываецца налічнікам. Не палянуйцеся, адарвіце налічнік і побач са страховачным штыром, у раёне "язычкоў" замка, у гэту пустату ўстаўце драўляныя брусочкі.

Яшчэ звярніце ўвагу на адну дэталь: у некаторых дамах замест бетоннай сцяны над дзвярамі — фанера. Калі гэта так, набіце над дзвярамі металічны ліст. Дзверы лепш за ўсё абабіць, выкарыстоўваючы мяккія абліцовачныя матэрыялы. Гэта абароніць вашу кватэру ад шуму, палепшыць вонкавы выгляд і ўнясе для зладзеяў элемент няпэўнасці — раптам пад мяккай абліцоўкай утойваюцца звыштрывалыя дзверы?



### *"Варшаўскі мост"*

У Брэсце ў гэтыя дні, як і ўсюды, – спякота. Аднак, нягледзячы на незвычайна высокую для беларускага лета тэмпературу паветра, паток жадаючых перасячы мяжу на пагранічным пераходзе "Варшаўскі мост" не канчаецца. Турыстам застаецца толькі спадзявацца на самаадданасць і прафесіяналізм работнікаў міліцыі пад кіраўніцтвам афіцэраў Аляксандра Аляксеевіча Хацько, Івана Мікалаевіча Шлягі, Міхаіла Аляксандравіча Ліхтара, Васіля Дзмітрыевіча Аскіркі, Міхаіла Васільевіча Шкутніка і іх таварышаў, якія ні на хвіліну не спыняюць адладжанай як гадзіннік працы.

**Фота П. Сулімы**

*Крымінальны анекдот*

## СМЕХ ЗА КРАТАМІ

* * *

У турму пасадзілі новенькага. "Зэкі" пачалі здзекавацца з яго, і ён паскардзіўся ахоўніку.

— А скажы ім, што сядзіш па 900-му артыкулу.

Навічок так і зрабіў.

Усе "зэкі" ад яго — убок, і больш не чапалі. На наступны дзень ён пытае ў ахоўніка:

— А што гэта за артыкул?

— Згвалтаванне буйной рагатай жывёлы са смяротным вынікам.

* * *

У міліцыю прыходзіць мужчына са слязамі на вачах:

— Знікла жонка.

— Калі?

— Сем гадоў таму.

— І вы толькі зараз заяўляеце?

— Ведаеце, я ніяк не мог у гэта паверыць.

* * *

Муж: Неабходна тэрмінова пазбаўляцца ад майго шафёра. Ён ужо сем разоў амаль не забіў мяне.

Жонка: Ты жорсткі, дарагі. Дай яму яшчэ адзін шанс.



*Афіцыйны аддзел*

# "ДЗЕТСАДАЎСКАЯ СПРАВА"

Так называўся артыкул, надрукаваны ў 19-м нумары нашай газеты. У ім ішла гаворка аб тым, што шасцігадовая Іра Мельнікава атрымала ў дзіцячым садку № 12 г.Бабруйска цяжкую траўму — пералом дзвюх касцей правай рукі са зрушэннем. Маці пацярпеўшай абвінавачвала ў здарэнні выхавальніцу Т.Барысёнак і медсястру Н.Кіпель. Віну садка прызнавала ў гутарцы з нашым карэспандэнтам і яго загадчыца Н.Чайкоўская. Аднак як жа былі пакараны вінаватыя? Ад іх... патрабавалі тлумачальныя запіскі. Мясцовая ж міліцыя ў асобе Першамайскага райаддзела пасля амаль гадавога следства справу паспяхова закрыла. Пасля гэтай публікацыі мы атрымалі (і надрукавалі ў № 24) афіцыйны адказ упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама за подпісам в.а. начальніка Трыпуценя, у якім паведамлялася, што "крымінальная справа паўторна накіравана пракурору Першамайскага раёна г.Бабруйска для адмены прынятага па ёй рашэння". Аднак яшчэ праз два месяцы, 30 ліпеня, у рэдакцыю прыйшоў чарговы ліст з абласнога УУС (датаваны чамусьці аж 28-м жніўня):

"Паведамляем, што па крымінальнай справе па факту прычынення цялесных пашкоджанняў малалетняй Мельнікавай Ірыне следчым аддзяленнем Першамайскага РАУС г.Бабруйска праведзена дадатковае следства, у ходзе якога ўстанавіць відавочцаў таго, што пашкоджанні зроблены пацярпеўшай у выніку дзеянняў выхавальніцы дзіцячай установы Барысёнак Т.П., не было магчымым.

У сувязі з гэтым 19 ліпеня г.г. крымінальная справа спынена на падставе арт.5 п.2 КПК Рэспублікі Беларусь у сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях грамадзянкі Барысёнак Т.П. саставу злачынства.

Следчы аддзел УУС аблвыканкама пагадзіўся з прынятым рашэннем.

Законны прадстаўнік пацярпеўшай Мельнікава А.А. азнаёмлена з вынікамі следства. Ёй растлумачаны яе правы па абскарджанню прынятага рашэння.

**Нам.начальніка УУС В.І.Елманаў."**

*Ну як, скажыце, пасля гэтага верыць у справядлівасць маці пацярпеўшай дзяўчынкі і на каго ёй спадзявацца, акрамя як на Бога і сябе? Высновa з усёй гэтай гісторыі, на думку рэдакцыі, адназначная: "непрабівальнасць" саўдэпаўскай сістэмы дашкольнага выхавання пры забюракратызаванасці і неразваротлівасці старой следча-судовай машыны застаецца непахіснай...*

**У бюро дзяжурыў П. Сіманаў**

# Яна знаходзіць "зорак"

**Пасля наведвання Мінска П'ерам Кардэнам яе прыезд — другая знамянальная падзея ў галіне рэкламы.**







Прыемна ўсведамляць, што ты першы са сваіх калег размаўляеш з вельмі абаяльнай француженкай, прэзідэнтам рэкламнага агенцтва "Ford Models" у Парыжы. Яна ўжо пятнаццаць год знаходзіць "зорак", фотаздымкі якіх упрыгожваюць вокладкі самых прэстыжных часопісаў. Апошнія чатыры гады яна ездзіць па краінах Усходняй Еўропы. У Беларусі гэтая жанчына ўпершыню.

Дамінік Кафэн не любіць гаварыць пра сябе. Яна ведае свае добрыя якасці і недахопы і, як кожны чалавек, імкнецца схаваць свае слабасці. Паводле слоў Дамінік, калі недахоп вельмі выразны, яна імкнецца схавацца, каб быць зусім непрыкметнай, а потым яго абавязкова пераадолее. Мадам Кафэн лічыць, што трэба навучыцца жыць і прымаць усе недахопы, толькі моцная асоба іх пераадолее,ператворыць у годнасць. Пра сябе Дамінік сказала, што па прыродзе яна вельмі нясмелая, але за гады працы было столькі прэс-канферэнцый, сустрэч з журналістамі, што было б ненармальна такой заставацца. Дарэчы, у такіх сустрэчах прэзідэнт французскага агенцтва імкнецца не столькі паказаць сябе, колькі прадстаўляць іншых людзей.

Дамінік жыве не па плану. Плануе толькі паездкі. Сёння яе цікавяць краіны, якія не кранула гэтая прафесія. Яна шукае "зорак" і знаходзіць іх. "Я ніколі не працую дарэмна. І да таго ж, наперад трэба рухацца хутка",— гаворыць мадам Кафэн.

Вакол Дамінік заўсёды многа людзей, але сапраўдных сяброў толькі двое.

— Шмат дзяўчат, знойдзеных мною, уцягваюцца ў бізнес, і тады ўжо асабліва на сяброўства разлічваць не прыходзіцца,— дзеліцца Дамінік.— Трэба быць дастаткова моцнай, каб спакойна адносіцца да таго, што да цябе паварочваюцца спінай. Спачатку было вельмі балюча, але час ідзе, і сёння я перажываю гэта лягчэй. Дзяўчат можна зразумець, іх нельга ні ў чым абвінавачваць. Усё залежыць ад асяроддзя, у якім яны выхоўваліся. Калі бедная дзяўчына прыязджае ў Парыж, яе ашаламляе гэтае жыццё. Многія з іх нават забываюцца на бацькоў.

Калі падапечныя мадам Кафэн выходзяць замуж, яна рада за іх. Але тады ўжо будзе толькі "паўзорка", бо рабоце трэба аддаваць усё. Для самой Дамінік сэнс існавання — каханне, радасць жыцця.

Работа ёй прыносіць радасць, хаця бываюць і няўдачы. Напрыклад, паездка ў Кіеў. Але гэта ні ў якім разе не азначае, што калі мадам Дамінік не знойдзе прыму ў Беларусі, то не прыедзе сюды больш. "Я абавязкова вярнуся, хаця б таму, што прыгажосць — універсальная, і ўсюды можна знайсці прыгожых жанчын",— кажа чароўная француженка.

Мадам Кафэн шмат ездзіла па свеце і яе заўсёды здзіўляла, што людзі такія аднолькавыя ("Ва ўсіх ёсць рукі, ногі, галава") і адначасова такія розныя. І гэта ўсё цікава, нова, прыгожа.

Аб сваёй прафесіі Дамінік гаворыць так: "Я знаходжуся ў недапушчальным месцы пошуку ісціны". Яна шукае ісціну ў прыгажосці, бо яна выратуе свет.

У Мінск Дамінік прыязджала вясной, каб знайсці тры самыя прыгожыя кветкі Беларусі для ўдзелу ў конкурсе "Міс Супермадэль-92". Прыгажосць кветкі заўсёды больш бачна, калі яна знаходзіцца асобна, а не ў полі. Але для Дамінік лепш кветкі ў полі, чым у вазе.

Жанна ПАЦЕЕНАК.

*Магія прыгажосці*

**Дзень добры! Спадзяюся, вы ўжо заўважылі новую рубрыку, і парады, якія там знайшлі, прынеслі вам карысць. Лета заявіла аб сабе настойліва, таму сёння пагаворым аб тым, як клапаціцца пра сябе ў гэтую пару года.**

## ЗАГАР СТАРЫЦЬ ТВАР...

Думаючы пра лета, кожная жанчына ўяўляе надзвычайны загар, які ўпрыгожыць твар. Можа і ўпрыгожыць, але і састарыць, калі мы не ў меру падставім твар сонцу, стаміўшыся чакаць яго за зіму і доўгую халодную вясну. Абыходзьцеся з сабой беражліва, памятайце, што загар сыдзе, а маршчыны застануцца. Таму абавязкова трэба жывіць скуру твару, увільгатняць, засцерагаць яе.

Выкарыстоўвайце любыя маскі, пажыўныя крэмы.

Скура старыцца не толькі таму, што з узростам зніжаецца функцыя сальных залоз, а перш за ўсё ад таго, што скура страчвае.вільгаць, а тым самым пругкасць. Для ўвільгатнення падыдуць эмульсіі, ласьёны, адвары траў. Карысна прымаць душ, купацца, гуляць пад дажджом або ў тумане. Калі вы маеце магчымасць умывацца расой, то свежасць твару вам гарантавана.

У хатніх умовах нескладана прыгатаваць ахоўны крэм ад сонца. Вазьміце адну сталовую лыжку любога пажыўнага крэму, палову чайнай лыжкі цынкавай мазі, адну чайную лыжку алею і ўсё гэта старанна разатрыце. Захоўвайце крэм у слоіку. Выкарыстоўвайце яго, калі збіраецеся загараць. Пасля зніміце адварам рамонку і нанясіце пажыўны крэм.

Ахоўную функцыю добра выконвае пудра. Насіце сонечныя акуляры, капелюшы, якія зараз зноў у модзе. Памятайце, што нашы бабулі ганарыліся тварам пяшчотным і белым, а не чорным і агрубелым.

Лета — пара, калі можна выкарыстаць магчымасць правільна харчавацца. Ешце пабольш садавіны, агародніны — гэта імгненна адаб'ецца на вашым твары.

І нарыхтуйце сабе вітамінаў на зіму. Не лянуйцеся, збірайце травы, пялёсткі руж, прыгатуйце розныя сокі. Напрыклад, з агуркоў. Патрыце кілаграм агуркоў на дробную тарку, працадзіце праз два слоі марлі. Прастэрылізуйце посуд, пераліце сок і закаркуйце. Захоўвайце ў халадзільніку. Зімой натуральны сок — важкая дабаўка да масак, або, калі разбавіць яго напалову тлустымі вяршкамі, — добры сродак для праціранні твару.

Згадзіцеся, лета — гэта прыемныя клопаты і добры настрой.

Жанна ПАЦЕЕНАК.

*Калейдаскоп*

## ІМІДЖ — СПРАВА СУР'ЁЗНАЯ

**Некалькі інтэрв'ю па асабістых пытаннях**

**Прапануем вашай увазе меркаванні на чыста жаночыя тэмы трох жанчын з палярнымі палітычнымі пазіцыямі — дэмакраткі Галіны Старавойтавай, камуністак Ніны Андрэевай і Сажы Умалатавай.**

Галіна СТАРАВОЙТАВА, згадзіўшыся, што "знешнасць — справа сур'ёзная", сказала: "Калі жанчына мае яўныя дэфекты знешнасці, яна наўрад ці здолее дабіцца палітычнага поспеху. Мужчыну гэта даруюць, жанчыне — ніколі".

Ніна АНДРЭЕВА мяркуе, што роля знешнасці "хаця і не апошняя, але не галоўная".

Сажы УМАЛАТАВА імкнецца, каб "знешнасць і ўнутраны свет чалавека былі сугучныя".

У адзенні Ніна Андрэева аддае перавагу стылю "практычнаму, без вычварнасці". Сажы любіць апранацца строга і элегантна. Галіна Старавойтава, паводле яе слоў, носіць тое, што прыйдзецца. "З маёй фігурай не так лёгка падабраць адзенне",— гаворыць яна.

І Ніна Андрэева, і Галіна Старавойтава трацяць роўна пяць хвілін на макіяж. Сажы Умалатава касметыкай не карыстаецца зусім, лічачы, што гэта ёй не падыходзіць. Андрэва і Умалатава любяць туфлі на высокіх абцасах. Старавойтава ж — на нізкіх.

Умалатава адчувае сябе дастаткова ўпэўнена толькі з манікюрам, Андрэва і Старавойтава яго не робяць.

Галіна Старавойтава назвала палітыку "адной з самых цяжкіх работ у свеце, магчыма, самай цяжкай". Такую работу "проста не кожны вытрымае", сказала яна. Ніна Андрэева "вельмі стамляецца ад палітыкі" і займаецца ёю таму, што, паводле яе слоў, "сёння інакш нельга". Сажы Умалатава гаворыць, што "адчувае сябе ў палітыцы цудоўна".



# БАРСЕЛОНА! БАРСЕЛОНА!..




## АЛІМПІЙСКІ СЛОЎНІК "ГАРЧЫЧНІКА"

БОКС — гараж спартсмена.

ВОДНАЕ ПОЛА — гульня ў мяч у ванне з вадой.

КІДАЛЬНІЦА ДЫСКА — хатняя гаспадыня ў стрэсавым стане, якая кідае талеркі.

СКАЧКІ Ў ВАДУ — спосаб ухіліцца ад адказнасці.

ФУТБОЛЬНЫ СУДДЗЯ — каліф на 1,5 гадзіны.

## ВЫБУХІ ДУМКІ

ШТАНГІСТ цяжка пераносіў чужыя рэкорды.

СТРАЛОК тлумачыў поспехі: не люблю малако і ўсё малочнае.

БАКСЁР пакінуў спорт: у яго адбілі ахвоту.

СКАКУН перамагаў, таму што быў пазбаўлены пачуцця меры.



Беларускія балельшчыкі на алімпіядзе






## ДЗЁННІК АЛІМПІЯДЫ

Наш спецыяльны карэспандэнт А.Пахмялюсь перадае з Барселоны:

Закончыліся спаборніцтвы сярод дэльтапланерыстаў. Прызы чакаюць пераможцаў, якіх ужо тыдзень шукае выратавальная група.

Пятую гульню запар не пакідае поле без мяча нападаючы каманды СНД С.Даўгарукі. Усе мячы ён раздасць потым сваім блізкім родзічам.










## КІНААФІША

### "Імітатар"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, створаная сумесна Кіеўскай кінастудыяй імя А.П.Даўжэнкі, вытворчым аб'яднаннем "Рэле і аўтаматыкі" і кіеўскім кааператывам "Парсуна". Сцэнарый напісалі Юрый Мамін, Вячаслаў Лейкін, Віктар Капылец і Алег Фіялка.

"Здымаць так, каб маглі пасмяяцца левыя, правыя і цэнтрысты. Зялёныя, чырвоныя, блакітныя і чорныя. Пасмяяцца ўсім і расстацца з памылкамі мінулага", – такі сакрэт рэжысёра карціны Алега Фіялкі. Вас чакае камедыя з любоўным трохвугольнікам у цэнтры, з выдатнымі акцёрамі Аляксеем Жарковым, Наталляй Лапінай і Ігарам Склярам...

Гукатэхнік Ігар Луцэнка марыць стаць акцёрам-імітатарам, але гэта не так проста, а пакуль... пакуль можна атрымаць са свайго таленту практычную дапамогу. З дапамогай ні ў якіх краінах не вядомага, а ў нас у краіне даючага фантастычныя магчымасці атракцыёна – тэлефоннага права...

### "Звар'яцелы аўтобус"

Назва гэтай новай каляровай мастацкай кінастужкі вытворчасці Маскоўскай кінастудыі імя Горкага, згадзіцеся, эфектная. Ды і сюжэт не дазволіць вам расслабіцца. Калі ж ведаеш, што ўся гісторыя пагоняў і боек прыдумана ў вольную часіну сцэнарыстам, гэта адно. А калі разумееш, што ўсё так і адбывалася на самай справе, – зусім іншае. Гэтая ж гісторыя мела месца ў рэальнасці. Некалькі гадоў таму ў Паўночнай Асеціі група тэрарыстаў захапіла аўтобус з дзецьмі і, атрымаўшы зброю, валюту і самалёт, вылецела ў Ізраіль. Абясшкодзіць тэрарыстаў на нашай тэрыторыі немагчыма: занадта вялікай рызыцы падвяргаліся заложнікі. Так што давялося потым дамаўляцца з ізраільскім бокам аб выдачы бандытаў...

Пастаноўку карціны паводле свайго сцэнарыя, напісанага ў садружнасці з Мікалаем Крывамазавым з удзелам Давіда Маркіша, ажыццявіў рэжысёр Георгій Натансон.

У фільме прымаюць удзел папулярныя кінаакцёры Івар Калныньш, Ігар Бочкін, Ганна Самохіна, Амаяк Акапян, Юрый Дземіч, Усевалад Платаў, Эмануіл Вітарган, Арыстарх Ліванаў.

### "Па законах джунгляў"



Фільм каляровы, двухсерыйны. Аўтары сцэнарыя – Мікалай Ражкоў, Ульмас Умарбекаў, Лаціф Файзіеў і Вінай Шукла. Над пастаноўкай карціны працавалі рэжысёры Лаціф Файзіеў і Умеш Мехра.

Лаціф Файзіеў: – Думка пра карціну нарадзілася амаль 16 гадоў таму на здымках фільма "Усход над Гангам". У вёсцы, дзе мы здымалі, жыло маленькае сланяня. Яму было не больш чым 3 месяцы. Мы пасябравалі з ім. Яно было вельмі смешнае і чамусьці ўвесь час кідалася на белы колер. А паколькі наш прадзюсер, спадар Мехра, быў у белым сафары, сланяня пастаянна жадала з ім пагуляць. Усё гэта выглядала вельмі смешна. Вось тады і нарадзілася ідэя зняць фільм, адным з герояў якога будзе сланяня, якое вырасла сярод людзей. З часам гэтая гісторыя абрасла падрабязнасцямі – і нарадзіўся сюжэт фільма "Па законах джунгляў". У нашым фільме вялікае месца аддадзена цырку. У Індыі вельмі папулярны савецкі цырк. У мяне таксама была мара вярнуцца да гэтай тэмы, таму што мой бацька доўгі час працаваў дырэктарам цырка. Ён пайшоў на фронт і загінуў, калі мне было 12 гадоў, але ўспаміны пра цырк засталіся са мной на ўсё жыццё. Цырк – гэта цудоўны від мастацтва, які прыцягвае мяне не менш, чым кіно.

Фільм зняты як шоу, як эстрадна-цыркавое прадстаўленне.

Адну з галоўных роляў у фільме выконвае зорка індыйскага кіно Мітхун Чакраборці.

### "Думкі пра жывапіс. Мікалай Андронаў"

Вытворчасць кінастудыі "Цэнтрнавукфільм". Аўтар сцэнарыя і рэжысёр – Ф.Цяпкін.

Праз споведзь і разважанні сучаснага мастака Мікалая Андронава, пра сувязі мастака з прыродай, светам стваральнікі карціны праводзяць думку пра маральнае, творчае жыццё чалавека на Зямлі.

Дзяжурны рэдактар Н. СТРАЛКОВА.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак № 32.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12